# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
№ 555

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

заснаваныя на сістэме мэтавых грашовых зберажэнняў грамадзян і іпатэчным крэдытаванні.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Акцыянерным ашчадным банкам «Беларусбанк» у трохмесячны тэрмін прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь:

2.1. па ўзгадненню з Нацыянальным банкам прапановы аб стварэнні сістэмы мэтавых грашовых зберажэнняў грамадзян для жыллёвага будаўніцтва, якая забяспечвае ўкладчыкам гарантыі своечасовага ўкладання іх накапленняў у будаўніцтва і абароны ад інфляцыі, а таксама магчымасць атрымання льготнага крэдыту для аплаты часткі кошту будаўніцтва (рэканструкцыі) жылых памяшканняў;

2.2. прапановы аб унясенні ў заканадаўства змяненняў і дапаўненняў, якія вынікаюць з гэтага ўказа і прадугледжваюць стварэнне і развіццё сістэмы іпатэчнага крэдытавання індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва.

3. Прапанаваць Нацыянальнаму банку заключыць з Акцыянерным ашчадным банкам «Беларусбанк» пагадненне аб адкрыцці яму на 1997 год крэдытнай лініі на суму 400 млрд. рублёў тэрмінам да 40 гадоў з выплатай 2 працэнтаў гадавых для крэдытавання будаўніцтва (рэканструкцыі) ці куплі індывідуальных жылых дамоў, што ажыццяўляюцца грамадзянамі, якія стаяць на ўліку і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, з пагашэннем Акцыянерным ашчадным банкам «Беларусбанк» крэдыту і выплатай Нацыянальнаму банку гадавых па меры пагашэння названымі грамадзянамі крэдытаў і выплаты працэнтаў за карыстанне імі.

4. Прапанаваць Акцыянернаму ашчаднаму банку «Беларусбанк»:

прадастаўляць грамадзянам, якія стаяць на ўліку і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, для будаўніцтва (рэканструкцыі) ці куплі індывідуальных жылых дамоў крэдыты ў аб'ёме адкрытай Нацыянальным банкам крэдытнай лініі ў памеры да 90 працэнтаў кошту будаўніцтва жылога памяшкання тыпавых спажывецкіх якасцей (з разліку 20 кв. метраў агульнай плошчы на аднаго члена сям'і) тэрмінам да 40 гадоў з пагашэннем крэдытаў і выплатай 5 працэнтаў гадавых за карыстанне імі праз год пасля пачатку крэдытавання. Прадастаўленне крэдытаў праводзіць пад заклад жылых дамоў, якія будуюцца (рэканструююцца, набываюцца);

накіроўваць на крэдытаванне індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў сельскай мясцовасці не менш як адну трэць аб'ёму выдзеленых крэдытных рэсурсаў.

5. Аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому:

5.1. у трохмесячны тэрмін:

зацвердзіць спісы грамадзян, якія стаяць на ўліку і маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і маюць права на атрыманне льготных крэдытаў у адпаведнасці з гэтым указам;

распрацаваць і зацвердзіць праграмы пазабюджэтнага фінансавання жыллёвага будаўніцтва, прадугледзеўшы ўдзел індывідуальных забудоўшчыкаў у рэалізацыі гэтых праграм;

распрацаваць і зацвердзіць рэгіянальныя праграмы індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва на 1997—2000 гады з улікам нормаў пункта 1 гэтага указа. Пры гэтым у частцы фінансавання праектавання і будаўніцтва пазапляцовачных інжынерных сетак кіравацца абзацамі першым — сёмым пункта 1 пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1993 г. № 850 «Аб мерах па забеспячэнню ўзвядзення аб'ектаў інжынернай і сацыяльнай інфраструктур у раёнах індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва»;

5.2. забяспечваць будаўніцтва пазапляцовачных інжынерных сетак у раёнах індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва за кошт крыніц фінансавання, вызначаных пастановай, названай у абзацы чацвёртым падпункта 5.1 гэтага ўказа, а таксама за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў, спецыяльных фондаў жыллёвага будаўніцтва, сродкаў, выручаных ад продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці, і іншых крыніц;

5.3. забяспечыць кантроль за выдзяленнем крэдытаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю індывідуальных жылых дамоў і мэтавым іх выкарыстаннем.

6. Кантроль за выкананнем гэтага ўказа ўскласці на Камітэт дзяржаўнага кантролю і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

7. Гэты ўказ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

17 снежня 1996 г.
г.Мінск.

# ПАРАДАК ДНЯ ПЕРШАЙ СЕСІІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Дадатак да Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 1996 года № 12-II/I*

1. Аб Часовым рэгламенце Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

2. Аб утварэнні пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

3. Аб выбранні старшынь пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

4. Аб персанальным саставе пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

5. Аб зацвярджэнні намеснікаў старшынь пастаянных камісій Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

6. Зацвярджэнне Савета Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

7. Аб праекце Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні распараджэння Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аб скасаванні Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

8. Аб праекце Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

9. Аб праекце Пастановы палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб тлумачэнні артыкула 10 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1995 год» і Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, спаганяемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь».

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змянення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год».

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўнення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, спаганяемых у бюджэт Рэспублікі Беларусь».

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй».

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы Рэспублікі Беларусь».

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйным наглядзе за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі».

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь».

16. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове атмасфернага паветра».

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб рэкламе».

18. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

19. Аб праекце закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь».

20. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі».

21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі».

22. Аб праекце Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб скліканні другой нечарговай сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

23. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб натарыяце».

24. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змянення і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання».

25. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абавязковым страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспартных сродкаў».

26. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб страхаванні».

27. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь».

28. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай статыстыцы».

29. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб насенні».

# З 1 СТУДЗЕНЯ 1997 ГОДА ТАРЫФЫ НА КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ МОГУЦЬ ПАВЫСІЦЦА...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

вытворчасць камунальных паслуг, якая не пакрываецца фіксаванымі тарыфамі, што ўстаноўлены для насельніцтва. Вядома ж, атрымліваецца вельмі несправядлівае становішча, калі прадпрыемствы выкладаюць за ваду, каналізацыю, цяпло больш за сабекошт паслуг. Мера гэта прымусовая, паколькі ў нас застаецца манаполія дзяржавы на жыллёва-камунальныя паслугі. Таму асноўныя выдаткі нясе менавіта дзяржава. Большасць прадпрыемстваў таксама атрымліваюць датацыі з бюджэту.

Паступова адысці ад перакрыжаванага субсідзіравання можна толькі пры павелічэнні прамога дзяржаўнага фінансавання ці праз павелічэнне тарыфаў для насельніцтва. Прычым апошняе павінна быць цесна звязана з ростам грашовых даходаў людзей, бо толькі пры дастатковым іх узроўні можна спадзявацца на поўнае атрыманне плацяжоў. Ліквідацыя перакрыжаванага субсідзіравання з'яўляецца пакуль што толькі перспектыўным напрамкам нашай дзейнасці. Ва ўмовах развітой эканомікі кошт якога-небудзь віду паслуг павінен быць аднолькавы, незалежна ад таго, на якім сацыяльным уз2роўні знаходзіцца іх спажывец, бо ў гастраноме ж вас не пытаюць, хто вы — мільянер ці жабрак. Таму галоўнай умовай нармальнай работы кожнай галіны народнай гаспадаркі з'яўляецца набліжэнне рэальнай цаны тавараў да іх сабекошту.

**— Прабачце, але ж ёсць пэўная частка насельніцтва, якое проста не можа заплаціць за камунальныя паслугі па прычыне нізкіх даходаў. Як быць з імі?**

— Для такіх людзей існуюць датацыі, што прадугледжаны ў Нацыянальнай жыллёвай праграме. Пры ўмове, калі плацяжы за камунальныя паслугі з улікам нарматыўнага жылля (я не маю на ўвазе пражыванне ў катэджах ці валоданне некалькімі кватэрамі) перавышае 15 працэнтаў сукупнага даходу сям'і, прапануецца прамая фінансавая падтрымка дзяржавы.

**— Менавіта гэтая ж група насельніцтва, верагодна, і складае асноўную частку неплацельшчыкаў?**

— Якраз тых, хто звярнуўся па датацыю, не так ужо і шмат — дзесьці 5—7 працэнтаў ад агульнай колькасці спажыўцоў паслуг нашай галіны. Неплацяжы ж складаюць больш значную частку, і ў асноўным сярод даўжнікоў большасць тых, хто можа заплаціць, але па розных прычынах не робіць гэтага. У адносінах да такіх мы прымаем даволі жорсткія меры.

**— У якім памеры з пачатку будучага года плануецца павышэнне тарыфаў на камунальныя паслугі?**

— З пачатку 1997 года павышаецца памер мінімальнай заработнай платы і, адпаведна, стаўка першага разраду. Зыходзячы з гэтага зараз адпрацоўваецца рашэнне ўрада аб павышэнні тарыфаў на камунальныя паслугі прыкладна на 15—20 працэнтаў. Мяркуецца павысіць тарыфы на ўвесь комплекс паслуг за выключэннем ацяплення, за якое насельніцтва будзе плаціць па старых расцэнках.

Павышэнне тарыфаў, вядома ж, не будзе адзіным крокам — потым у адпаведнасці з рэальнымі ўмовамі гэта лінія будзе працягвацца ў мэтах паступовай ліквідацыі перакрыжаванага субсідзіравання.

**— Ці ўдалося вам за год панізіць сабекошт камунальных паслуг за кошт тых жа энергазберагальных мерапрыемстваў?**

— Так, больш года мы працуем над зніжэннем сабекошту, у сувязі з чым быў праведзены шэраг мерапрыемстваў. Рэзкае паніжэнне, дарэчы, патрабуе вялікіх укладанняў, прымянення новых тэхналогій. А наша галіна практычна ўвесь час праводзіць толькі бягучы рамонт, часта ва ўрон рэканструкцыі, аднаўленню асноўных фондаў. У такім разе асноўнай крыніцай магчымага паніжэння сабекошту камунальных паслуг з'яўляецца энергазберажэнне.

**— У якім стане зараз знаходзіцца працэс абсталявання жылога фонду прыборамі ўліку?**

— Прыборы ўліку абавязкова ўстанаўліваюцца зараз на ўсіх новабудоўлях, а таксама ў дамах, дзе праводзіцца капітальны рамонт, і ва ўсім існуючым жыллёвым фондзе. Эканомія (як паказвае практыка) адбываецца ў памеры 15—20 працэнтаў. Гэта датычыцца ў асноўным вады. З ацяпленнем цяжэй — тут ідзе абсталяванне групавымі прыборамі ўліку, на індывідуальныя няма неабходных сродкаў. Мы ж не можам пакуль дазволіць сабе, напрыклад, нямецкі варыянт, калі на кожнай батарэі стаіць лічыльнік, які з'яўляецца ў той жа час і рэгулятарам. Зараз вельмі важна іншае — у нашых умовах шмат залежыць ад саміх жыхароў, пры іх беражлівых адносінах да свайго жылля можна зэканоміць да 25 працэнтаў энергетычных рэсурсаў. А гэта вялікая справа! Элементарныя мерапрыемствы па ацяпленню жылля, якія не зоймуць больш за гадзіну часу, прынясуць плён, які пераўзыходзіць усе намаганні камунальнікаў па энергазберажэнню. Да таго ж тарыф за ацяпленне мы пакуль не павышаем.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# ТАВАРНЫ ГОЛАД АБО ДАРАГОЎЛЯ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Як вядома, тэма забеспячэння насельніцтва краіны харчаваннем знаходзіцца пад пільнай увагай не толькі айчынных сродкаў масавай інфармацыі, але і замежных. У прыватнасці, у «Известиях» за 15 снежня г. г. быў надрукаваны матэрыял па Беларусі, у якім, у прыватнасці, гаворыцца аб хуткім увядзенні ў краіне картак і талонаў. Як зазначыў на гэты конт спадар Лявонаў, зараз Міністэрства гандлю рыхтуе абвяржэнне, паколькі ў матэрыяле прыведзены скажоныя лічбы і ўвогуле ён не адпавядае рэчаіснасці.

Што будзе далей з прадуктамі і цэнамі на іх — сказаць дакладна практычна немагчыма. Аднак ужо сёння бачна, што «мяккае» павялічэнне кошту закранула нават тыя тавары, цана на якія пратрымалася адносна доўгі час пасля ўстанаўлення іх фіксаванага ўзроўню на самым высокім узроўні. Так, гранічнай мяжой кошту дзесятка курыных яек была вызначана лічба ў 16 тысяч рублёў, аднак ужо сёння ў мінскіх магазінах можна ўбачыць гэты прадукт па 16.800 рублёў. Насуперак запэўніванням Міністэрства гандлю, што кошт цукру да канца года не павялічыцца (10 тысяч за кілаграм — такі быў максімум), у крамах салодкая прадукцыя дзе-нідзе ўжо каштуе 12.200 рублёў. І яшчэ аб адным важным моманце. Зусім не журналісты павінны ў тым, што зараз творыцца з цэнамі і харчаваннем, як гэта спрабуюць прадставіць некаторыя адказныя работнікі шэрага міністэрстваў і ведамстваў, а таксама чытачы. Адсутнасць інфармацыі нараджае ўсё, акрамя стабільнасці і спакою. Газета — гэта толькі люстэрка таго, што адбываецца ў нашым жыцці.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЗДАРЭННІ*

# ШКОЛЬНІКІ АДПРАЎЛЕНЫ НА «КАНІКУЛЫ». З ГАЛАЎНЫМ БОЛЕМ

**На непрадбачаныя канікулы вымушаны былі адправіцца вучні сярэдняй школы № 10 у Наваполацку. Тэндэнцыя высакоснага года — падносіць рознага роду непрыемныя «сюрпрызы» — дабралася і да горада беларускіх нафтавікоў.**

Хто добра памятае свае школьныя гады, нічога незвычайнага не знойдзе ў тым, што часам вучні спрабуюць прыдумаць любую прымальную адгаворку, каб пакінуць заняткі. У аўторак з Наваполацкага гарадского ўпраўлення ўнутраных спраў у Віцебскі абласны выканком паступіла паведамленне, што СШ № 10 закрываюць. Да высвятлення прычын незразумелага здарэння. Галаву было над чым паламаць: прабачце за таўталогію, галаўны боль, на які скардзілася шмат вучняў, прымусіў гарадскія ўлады пайсці на крайні крок — прыпыніць заняткі. 16 снежня была створана гарадская камісія, якая і занялася абследаваннем будынка школы. Ужо ў аўторак былі атрыманы першыя вынікі яе работы: у пробах паветра выяўлена павышанае ўтрыманне пары ртуці. Прычына загадкавага ЧП быццам бы выяўлена. Аднак застаецца шмат пытанняў тыпу: якім чынам ртуць трапіла ў школу, што гэта — чыясьці няўважлівасць або дзіцячыя «жарты»? Каб знайсці на іх адказ, рэдакцыя звязалася з Наваполацкам, а менавіта з першым намеснікам старшыні гарвыканкома Мікалаем Таракановым.

— На сённяшні дзень да справы намі падключаны 3 лабараторыі, якія праводзяць паўторныя аналізы, — паведаміў Мікалай Фёдаравіч. — Усе адпаведныя службы задзейнічаны, і сітуацыя знаходзіцца пад кантролем. Пакуль вынікаў паўторных замераў няма, аднак хутка яны стануць вядомы і тады можна будзе рабіць нейкія высновы. Самае галоўнае, што ніхто сур'ёзна не пацярпеў. Вучні, у якіх былі асабліва ярка выяўленыя прыметы недамагання, зараз абследуюцца ў паліклініцы.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### ЧАЧЭНСКІЯ БАЯЕВІКІ ЗАХАПІЛІ ДЭЛЕГАЦЫЮ ПАЎНОЧНАЙ АСЕЦІІ

**Учора ў другой палове дня стала вядома пра новы захоп заложнікаў у Чачні. Невядомыя ўзброеныя асобы затрымалі прадстаўнічую дэлегацыю Паўночнай Асеціі, якая накіроўвалася ў Грозны на перамовы з кіраўніцтвам рэспублікі.**

Інтэрфакс паведаміў, што дэлегацыя Асеціі, якая выехала 16 снежня ў Чачню, захоплена ў заложнікі баевікамі з мэтай атрымання выкупу. У састаў дэлегацыі ўваходзілі дарадца прэзідэнта Паўночнай Асеціі, намеснік міністра ўнутраных спраў Асеціі і прадстаўнік Канфедэрацыі народаў Паўночнага Каўказа. За іх вызваленне баевікі патрабуюць 6 мільёнаў долараў. Агенцтва ІТАР-ТАСС паведамляе, што праваахоўныя органы Чачні пакуль толькі займаюцца праверкай інфармацыі аб знаходжанні на тэрыторыі рэспублікі дэлегацыі Паўночнай Асеціі.

### ПЕРУАНСКІЯ ПАРТЫЗАНЫ ЗАХАПІЛІ ЯПОНСКАЕ ПАСОЛЬСТВА Ў ЛІМЕ

**Галоўнай міжнароднай навіной застаецца захоп заложнікаў у сталіцы Перу Ліме. Арганізатарамі гэтай акцыі з'яўляюцца члены рэвалюцыйнага руху імя Тупака Амара. Сярод захопленых — члены ўрада Перу і замежныя дыпламаты.**

Каля 20 левых партызан, узброеных аўтаматамі і гранатамётамі, узялі штурмам рэзідэнцыю японскага пасла ў Ліме падчас прыёму з нагоды дня нараджэння імператара Японіі. Партызаны, па словах іх прадстаўніка, захапілі каля 250 заложнікаў. Сярод іх японскі пасол, перуанскі міністр замежных спраў і сельскай гаспадаркі, паслы Германіі, Бразіліі, Іспаніі, Кубы і шэрага іншых краін. Партызаны пагражаюць забіць заложнікаў і сябе, калі перуанскія ўлады не вызваляць некалькі сот іх таварышаў і лідэра групоўкі. Паведамляецца, што партызаны вызвалілі 80 заложнікаў — старых і жанчын. Сярод іх маці прэзідэнта Перу.

### НАНЕСЕНЫ РАКЕТНЫ ЎДАР ПА ПАЎДНЁВАМУ ІРАКУ

Ізраільскія ВПС нанеслі ўчора ноччу ўдары па цэлях у Паўднёвым Ліване. Некалькі самалётаў прайшлі нізка над раёнам, дзе, як мяркуецца, размешчаны аб'екты праіранскай шыіцкай арганізацыі «Хэзбалах». Было выпушчана 6 ракет. Інфармацыя пра ахвяры і разбурэнні не паступала.

### АМЕРЫКАНСКІ КАНГРЭСМЕН МОЖА «ЗАГРЫМЕЦЬ» ЗА КРАТЫ

Дорага можа абысціся амерыканскаму кангрэсмену Уэсу Кулі, рэспубліканцу ад штата Арэгон, спроба «прычасаць» сваю біяграфію. У аўторак яму прад'яўлена абвінавачанне ў тым, што Кулі свядома выступаў з хлуслівымі заявамі перад выбаршчыкамі адносна сваёй службы ў саставе армейскага спецназа ў Паўднёвай Карэі. Сёння Кулі павінен з'явіцца на першае пасяджэнне суда, дзе будзе разглядацца яго справа. Калі суд прызнае яго вінаватым у падмане выбаршчыкаў, яму пагражае пяць гадоў зняволення і штраф у памеры да 100 тысяч долараў.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Аўстралійскі Саюз работнікаў фінансавага сектара вырашыў ашчасліваць работнікаў сваёй сферы «гарачай тэлефоннай лініяй» — на выпадак сексуальных дамаганняў у час калядных канікулаў. Справа ў тым, што, паводле мінулагодніх даных, 18 працэнтаў служачых сектара сапраўды падвяргаліся ў гэты перыяд грубым сексуальным дамаганням, яшчэ 48 працэнтаў прызналіся, што сутыкаліся з даволі агрэсіўнымі «заляцаннямі». А ўлічыць трэба тое, што ў Аўстраліі 65 працэнтаў служачых фінансавага сектара складаюць жанчыны. Вось ім і прапаноўваецца калядны падарунак у выглядзе «тэлефоннай страхоўкі».

**ІТАР-ТАСС**

Выяўлена, што характар размяшчэння малекул ДНК розны і строга пастаянны ў кожнага чалавека. Іх паслядоўнасць, якая выяўлялася ў лабараторыях, унікальная для кожнага з нас. Дастатковую для аналізу колькасць ДНК можна здабыць з кропелькі крыві або сліны, з воласа, кавалачка пазногця, знойдзенага на месцы злачынства. Гэта дазволіць сярод некалькіх падазраваемых адшукаць вінаватага. Вучоныя прапанавалі замест адбіткаў пальцаў заносіць у картку затрыманага злачынцы даныя аналізу ДНК.

**«Труд».**

## ДА НАС ПРЫЕХАЎ ДАНЧЫК...

**Ён нарадзіўся 3 студзеня 1958 года ў Нью-Йорку. Бацька, па нацыянальнасці ўкраінец, вырашыў назваць свайго сына Багданам. Памяншальнае Багданчык хутка ператварылася ў Данчык і... прырасло да яго, пэўна, назаўсёды.**



ДАНЧЫК рос і выхоўваўся ў беларуска-ўкраінскай сям'і, дзе беларускія карані былі надзвычай моцныя. Прабабка Данчыка, Эмілія Шабуня, даводзіцца роднай сястрой Івану і Антону Луцкевічам, адраджэнцам пачатку XX стагоддзя.

Данчык па адукацыі журналіст, скончыў Нью-Йоркскі універсітэт, цяпер працуе галоўным прадзюсерам беларускай праграмы «Радыё «Свабода». А музыка і спевы — гэта натхненне яго душы. З дапамогай беларускай дыяспары Данчык выдаў некалькі кружэлак: у 1977 годзе — Данчык співае «Беларусачку», у 1985-м — «Я ад вас далёка», у 1988-м — «Мы адной табе належым», у 1992-м — «Мы яшчэ сустрэнемся».

У 1989 годзе Данчык зрабіў сваё першае турнэ па Беларусі, якое прынесла яму ашаламляльны поспех. У сёлетні свой прыезд ён даў некалькі сольных канцэртаў — у Гродне, Мінску, будзе выступаць у Полацку і Віцебску. На жаль, для многіх мінчан сустрэча з Данчыкам так і не адбылася. Па незразумелых прычынах адмовіліся прадаставіць памяшканне для канцэрта тэатр Янкі Купалы і Рускі тэатр. А зала Дома літаратараў была надзвычай малая, каб умясціць усіх жадаючых.

Прапаную вам, паважаныя чытачы, каротказ інтэрв'ю з Данчыкам, якое ўдалося ўзяць у час сяброўскай сустрэчы Данчыка з моладдзю ў Доме дружбы.

**— Данчык, чаму ты так доўга не прыязджаў да нас?**

— Я не артыст, не прафесіянал. Хаця ўвесь час спяваю і іграю на гітары. У пачатку 90-х гадоў я пачаў працаваць на «Радыё «Свабода». Спачатку ў Мюнхене, пасля ў Празе. Я не пішу рэпартажы, як карэспандэнты. Раблю пераклады інфармацыі з англійскай мовы, працую са стужкамі, з тэхнікай. Вольнага часу застаецца зусім мала. Асабліва цяпер, калі мы сталі рабіць не адну гадзіну вяшчання, а пяць. Супрацоўнікі радыё вельмі часта працуюць па 10 гадзін, і ў суботу прыходзім, і ў нядзелю.

**— І як жа ўдалося вырвацца з кругавароту спраў? Падрыхтаваць новыя песні?**

— Скажу шчыра, што я публічна даволі даўно не выступаў. З таго часу, як пераехаў у Еўропу. Ну, хіба што для сябе. Вы ж ведаеце, калі спартсмен не трэніруецца, балерына не стаіць штодня ля станка, яны губляюць свае прафесіянальныя здольнасці. Так і голас. Яго трэба трэніраваць, даваць яму нагрузку. Калі я даў згоду зноў пабываць у Беларусі, то мусіў сур'ёзна заняцца голасам. І апошнія паўгода былі аддадзены амаль штодзённым рэпетыцыям, развучванню новых песень...

**— Данчык, я ведаю, што ты спяваеш на многіх мовах свету. А ці вывучыў за апошнія гады новую мову?**

— Так. Я раней зусім не ведаў нямецкай. І калі апынуўся ў Нямеччыне, то адчуваў сябе даволі няўпэўнена. Дзякуючы нямецкім сябрам я цяпер больш-менш размаўляю.

**— А ты не сумуеш па сваёй Амерыцы?**

— Вельмі. Бо гэта ж фактычна мая радзіма. І я люблю Амерыку. Даволі цяжка жыць у чужой краіне. Стараюся на Каляды прыехаць дамоў, да сям'і.

**— А ў Беларусі ты не адчуваеш сябе як свой?**

— Я ніколі не жыў у Беларусі. І доўгі час не мог нават трапіць сюды. Мне адмаўлялі ў візе. Пэўна, па ідэалагічных меркаваннях, бо я ж быў з сям'і «контррэвалюцыянераў», так званых нацыяналістаў. І толькі калі на Беларусі ў канцы 80-х гадоў пачалося нацыянальнае Адраджэнне, я рызыкнуў прыехаць. Тут у мяне засталося мноства сяброў. Мы лістуемся, падтрымліваем сувязі. Што гэта за людзі? Гэта тыя, хто хоча бачыць Беларусь незалежнай, а яе народ — годным. Цяпер такіх людзей называюць у Беларусі чамусьці апазіцыяй. Я прыехаў у Беларусь пад Каляды, каб паспяваць для землякоў песні, падняць настрой.

**— Данчык, пасля канцэртаў у 1989 годзе ты стаў пэўным сімвалам беларускага Адраджэння. Ты не займаешся палітыкай, аднак беларускасць — гэта цяпер таксама палітыка...**

— Я бачу, што співаць і гаварыць па-беларуску цяпер не надта папулярна. Калі мае канцэрты, дзе гучаць у асноўным беларускія песні, лічыць палітычным актам, то я безумоўна палітык.

**— Што змянілася ў тваім жыцці за тры гады, што ты не быў у Беларусі?**

— Я ўсё той жа. І нічога не змянілася. Затое, як мне здаецца, шмат перамен у Беларусі. Нават цяжка паверыць, што за гэты час так усё памянялася. У людзей даволі змрочны настрой. Няма таго аптымізму, што панаваў на пачатку 90-х. Але я думаю, што не трэба быць песімістамі. А замест клятваў у любові да Беларусі паболей рабіць карысных, неабходных спраў.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# МОВА ДА ЗАПАТРАБАВАННЯ

**Дыскрымінацыя па моўнай прымеце ў сённяшняй Беларусі стала рэальнасцю**

**ГАРТАЮ старыя газетныя падшыўкі сямігадовай даўнасці. 1989 год. Эпоха галоснасці, досвітак нядоўгай паласы нацыянальнага адраджэння. Міжволі лаўлю сябе на думцы: многія артыкулы той пары амаль без змен можна друкаваць і сёння. З адной істотнай папраўкай: сітуацыя з рэальным грамадскім статусам беларускай мовы не проста вярнулася да стану 1989 года — яна значна пагоршылася нават у параўнанні з тым далёка не бліскучым становішчам.**

Пры камуністах, нягледзячы на іх татальны пралетарскі інтэрнацыяналізм, усё ж існавалі пэўныя абмежавальнікі, якія трымалі працэс русіфікацыі хаця б у знешне прыстойных рамках. Напрыклад, цяжка ўявіць, што ў эпоху Машэрава Беларускае тэлебачанне дазволіла б вядучым весці праграмы на рускай мове. Альбо што беларускамоўныя абласныя газеты дружна перайшлі б на рускую мову, пакінуўшы беларускай толькі назву. Немагчыма таксама ўявіць, што ў 70—80-х гадах якая-небудзь з беларускіх кнігарняў хоць аддалена нагадвала б кнігарню ўзору сярэдзіны 90-х — з залежамі рускамоўнай дэтэктыўна-парнаграфічнай макулатуры і з больш чым сціплым закуткам беларускіх кніг, да таго ж выдадзеных на нізкаякаснай паперы.

У апошні час з высокіх трыбун нярэдка чуюцца высакамоўныя тырады: маўляў, Беларусь — адзіная з краін былога СССР, якая не дапусціла дыскрымінацыі па нацыянальнай прымеце. Калі зыходзіць з фармальна юрыдычнага пункту гледжання — сапраўды, не дапусціла. Новая Канстытуцыя аб'яўляе дзяржаўнымі беларускую і рускую мовы, гарантуе «свабоду выбару мовы выхавання і навучання», абвяшчае «берагчы гісторыка-культурную, духоўную спадчыну і іншыя нацыянальныя каштоўнасці».

Але гэта — палітычныя дэкларацыі. А практыка? Паспрабуйце атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Паспрабуйце дабіцца ад чыноўніка афіцыяльнага адказу ці тлумачэння на беларускай мове. Прад'явіце прэтэнзіі да дзяржаўнай ці камерцыйнай арганізацыі, якія адмаўляюцца афармляць шыльды, рэкламу адначасова на беларускай і рускай мовах.

Так званае «двухмоўе» ўзору 1995 года — гэта не што іншае, як поўная свабода для рускай мовы і імклівы заняпад і дэградацыя мовы беларускай. Натуральна, што пры гэтым мае месца і адкрытая дыскрымінацыя той невялікай часткі насельніцтва, якая яшчэ трымаецца за мову продкаў. Гэтая дыскрымінацыя — вынік грэбавання нават зменяным не на карысць Беларушчыны заканадаўствам, што існуе сёння. Але на гэта дзяржава не звяртае ніякай увагі.

Новы перыяд нацыянальнага ўздыму ў блізкай перспектыве наўрад ці магчымы. У канцы 80-х гадоў на мяжы вымірання і выцяснення знаходзіліся многія мовы. Падобныя праблемы перажывалі славакі, славенцы, амаль усе народы Савецкага Саюза. На той агульнай хвалі нацыянальнага адраджэння атрымалі пэўную надзею і беларусы. За мінулыя гады многае змянілася. Сёння нішто не пагражае нават украінскай мове — той мове, стан якой яшчэ зусім нядаўна быў параўнальны з нашым. Маладыя дзяржавы шпарка будуюць свае ўласныя дамы, вяртаючы страчанае, надаючы нацыянальным мовам годны статус і дастойнае месца.

Беларусы пайшлі ўласным шляхам. У 1995 годзе на майскім рэферэндуме грамадзяне краіны прагаласавалі за тое, каб статус рускай мовы быў роўны са статусам мовы беларускай. (Размова, дарэчы, нават не ішла пра дзяржаўнасць рускай мовы.) Калі б гэты голас народа быў пачуты і прыняты як кіраўніцтва да дзеяння, то дзяржава сёння рабіла б хоць якія-небудзь намаганні, каб хаця б часткова наблізіць беларускую мову да стану мовы пануючай — рускай. Але вынікі рэферэндуму ўспрыняты ўладай інакш — як дазвол на татальнае выцясненне беларускай мовы.

Мова — матэрыя зменлівая, жывая. Яна здольная памерці на працягу сотні-другой гадоў, разам са сваімі носьбітамі. У 1995 годзе, галасуючы за «двухмоўе», беларусы разумелі, што рэальна яно будзе азначаць. Але намаганняў для таго, каб стаць на абарону аслабленай мовы, прыкласці не пажадалі. Для гэтага давялося б пераступіць праз уласны дыскамфорт.

Так што вінаваціць няма каго: большасць сама асудзіла мову на маруднае пахаванне. Шкада сёння толькі тых падросшых ужо дзяцей, хто ў 1989—94 гадах прыйшоў у беларускія класы, паверыў у Адраджэнне і беларускую дзяржаву, быў упэўнены, што іх веды патрэбны маладой дзяржаве.

Днямі сустрэў гераіню свайго даўняга рэпартажа — настаўніцу, якая ў 1989 годзе першай пагадзілася перайсці ў беларускамоўны клас. Тады яе ўсяляк заахвочвалі і кіраўніцтва школы, і РАНА. Нядаўна гэту настаўніцу прымусілі звольніцца — у рускамоўны клас яна вяртацца не захацела, а ў беларускамоўных настаўніках, як ёй заявілі, сталічная школа патрэбы больш не мае.

Калі дзяржава сапраўды ставіць на мэце ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі канчатковае выкараненне мовы, то намнога больш гуманна было б аб'явіць пра гэта адкрыта і шчыра. Прынамсі, тады бацькі ведалі б: калі яны наважацца вучыць сваіх дзяцей па-беларуску, то рызыкуюць, што:

а) іх дзіця не здолее прадоўжыць навучанне на гэтай мове ў ВНУ;

б) веданне мовы не спатрэбіцца ні ў адной дзяржаўнай установе;

в) за карыстанне мовай за іх дзіцем можа замацавацца рэпутацыя «нацыяналіста» і «палітычна недабранадзейнага» з усімі адпаведнымі кар'ернымі вынікамі.

Гэта былі б больш сумленныя паводзіны, чым цяперашняе дэклараванае раўнапраўе, якое ўводзіць людзей у зман і ў перспектыве абернецца тысячамі зламаных лёсаў і расчараванняў.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ПРА НАС*

# ШТО НАША ЖЫЦЦЁ? ГУЛЬНЯ

**У магілёўскі карпункт «Звязды» прыйшла наведвальніца, спытала: «Ці магу я падаць у суд на расійскага грамадзяніна Якубовіча? На яго «Поле цудаў».**

Аказваецца, у жанчыны бяда. Пасля чарговай перадачы папулярнага шоумэна здарылася з яе сынам істэрыка. Цяпер ён перастаў есці, рыхтаваць урокі, зрабіўся раздражнёным і злым. Хлопчык марыць аб веласіпедзе, маці з хранічна дэфіцытнага сямейнага бюджэту не ў сілах каторы год сабраць сабе на зімовыя боцікі, а Якубовіч можа так, без дай прычыны, ашчасліўць каштоўнай рэччу ні за што. Для хлопчыка ён чараўнік. Хлопчык упэўнены, што дастаткова з'ездзіць на «Поле цудаў» — і адтуль вернешся такім жа багатым, як персідскі шах. Хлопчык бачыць па тэлевізары, што грошы ці падарункі атрымліваюць там усе ігракі, нават тыя, хто не адгадаў не тое што слова, а нават ніводнай літары. А маці ў Маскву не пускае. Маці нядобрая. Свайму сыну вораг. І ён, як умее, помсціць.

На мінулай пятніцы давялося тую перадачу паглядзець і мне. Запомнілася яна тым, што на гэты раз удзельнікамі гульні былі дзеткі. Ад пяці годзікаў і далей.

Разумею, аднастайнасць «прыядаецца», і Л. Якубовічу спатрэбіўся «ажыўляж». Таму, мусіць, і запрасіў дзяцей на сваё «поле».

У астатнім без перамен. Надакучлівае пытанне ўдзельнікам: «Вы працуеце або вучыцеся?» Разлік, напэўна, на тое, што ў дачыненні да дашкалят яно выкліча камічны эфект. Вельмі, аднак, «смешна». Калі ўлічыць, што дзіцячая праца зараз не ў навіну: малыя кідаюць падручнікі і мыюць лімузіны.

Як і раней, ашаламляльныя прызы ад фірмаў. У супергульні разыгрывалася нават маскоўская кватэра. Жаўтароты, прабачце, вундэркінд не ведаў, як звалі сабаку з мультфільма «Брэменскія музыканты», інакш атрымаў бы харомы ў белакаменнай.

Вядома ж, сектар «мільён». Ніякавата было глядзець на тое, як пан Якубовіч дапамагаў шчасліўчыку ўціснуць у кішэню дзіцячай курточкі тры мільёны рублёў.

Традыцыйныя падарункі ў адказ. Усё правільна. Ты — мне, я — табе.

Падкрэслены культ рэчаў.

— Што ты хочаш? — пытаў «чарадзей» у нашага земляка, малодшакласніка з Оршы.

— Відэакамеру.

Кніжкі ці там алоўка не папрасіў ніхто.

Не падумайце, быццам умешваюся ў справы незалежнай тэлекампаніі «Від» і першага канала ГРТ. Хачу толькі, як жыхар СНД і тэлегледач, пацікавіцца: ці ўлічваюць у Астанкіна тое, як успрымаецца полецудаўская шчодрасць (прасцей — «халява») у краінах з амаль пагалоўным насельніцтвам жабракоў? На дарослых, калі яны не з эліты, гэтае рэкламнае шоу, замаскіраванае пад інтэлектуальную гульню, дзейнічае як на быка чырвоная ануча, а дзецям ламае псіхіку.

Увогуле, паглядзець на тое, што транслюе нам Масква, дык не жыццё — суцэльная гульня. «L-клуб», клуб знатакоў, «Адгадай мелодыю» і г. д. і да т. п.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

# МАХЛЯРКІ НА ГАСТРОЛЯХ

На рагу вуліц імя Леніна і Мірашнічэнкі ў Светлагорску сімпатычная жанчына, апранутая ў дарагое скуранае паліто, пільна ўглядаючыся ў твар дзяўчыны, ветліва звярнулася да яе:

— Прабачце, калі ласка. Можна вас спытаць?

— У чым справа? — спынілася тая.

— Бачу, хваробы вас адольваюць розныя. І медыкі, напэўна, кажуць, што гэта — ад слабага арганізма. Дык не верце ім: дыягназы іхні няправільныя. На вас псоту наслалі.

Дзяўчына перасмыкнулася, насцярожана спытала:

— А адкуль вы ведаеце?

— Ведаю. Псоту тую ўрачам не выгнаць ніколі. Дайце руку.

Прыглядзеўшыся да пальцаў і ўсёй далоні, жанчына сумна пахітвала галавой:

— Дрэнна, вельмі дрэнна. Прабачце за горкую праўду: праз год-паўтара з вамі можа здарыцца самае горшае.

Настрой дзяўчыны адразу ж упаў да нулявой адзнакі. Яна сапраўды неадночы лячылася без належнага эфекту, здароўе падводзіць і зараз. І калі б аб яе блізкім непапраўным сказала нейкая цыганка-варажбітка, яна б яшчэ падумала, верыць той ці не. А тут — такая інтэлігентная жанчына. Магчыма, з кагорты экстрасенсаў, якія і скрозь зямлю бачаць. Вунь колькі зараз пра іх апавядаюць добрага.

Тут падышла да іх яшчэ адна жанчына:

— Добры дзень, Ларыса Рыгораўна. Як добра, што сустрэла вас. Дапамажыце мне, калі ласка. Памятаеце, я ў Зайцавых была, калі вы лячылі Ганну Пятроўну?

— І што? Як яна зараз?

— Бегае, як маладзіца, — круціцца нібы вавёрка. Ад псоты не следу не засталося. Вывятрылася ўсё. Дык можа і мяне палечыце. За платай не пастаю.

Адышлі крыху ўбок, каб не ўсе людзі чулі пра дамову. Дзяўчына ўжо гатова была аддаць любыя грошы, каб толькі адкараскацца ад хвароб. А Ларыса Рыгораўна прынялася за «работу». Пакапалася ў сваёй сумцы, дастала адтуль дзве іголкі, нешта пашаптала над імі і ўручыла іх сваім кліенткам.

— Праз пераход на наступнай вуліцы пройдзеце, і калі іголка ў кагосьці з вас пачарнее (а гэта яўны прызнак вашай псоты), выкіньце яе сабе пад ногі. І калі задумалі вылечыцца, нясіце мне ўсе свае грошы і залатыя рэчы. Падкрэсліваю: усе. Інакш эфекту не будзе. Вось вам насавыя хусцінкі і два яйкі. Пабудзеце дома з імі — і да мяне. На гэтае ж самае месца. І нікому аб усім гэтым — ні гу-гу. З Богам.

Праз гадзіну кліенткі вярнуліся на скрыжаванне вышэй указаных вуліц. Ларыса Рыгораўна пільна паглядзела ім у вочы, зноў нешта пашаптала, забрала пакеты. У тым, які прынесла дзяўчына, знаходзілася 2.766 амерыканскіх долараў, залатыя ланцужкі, пярсцёнкі і завушніцы — усяго дзесяць штук.

— Усё? — перапытала яшчэ раз. — Нічога не ўтаілі?

— Усё, усё, — пачула ў адказ.

Ларыса Рыгораўна тым часам дастала іншыя пакеты, пераклала туды яйкі і насавыя хусцінкі і сказала, каб сёння ж роўна ўпоўнач і не хвілінай пазней яны пайшлі на цвінтар і пакінулі на дзевятай магіле трэцяга рада яйкі і хусцінкі, а назаўтра пустыя, загадзя памечаныя пакеты вярнулі ёй. Першай залямантавала напарніца дзяўчыны: я баюся ісці на цвінтар такой глухой ноччу да мерцвякоў. Для мяне гэта нібы смерць.

— А ты таксама баішся? — спытала Ларыса Рыгораўна ў дзяўчыны. Тая моўчкі кіўнула галавой.

— Шкада мне вас, гаротных. Што ж, дапамагу, сама аднясу туды пакеты. Але раніцай, роўна ў шэсць гадзін, на гэтым жа месцы забярыце ў мяне пустыя пакеты. Спозніцеся — будзе вельмі дрэнна і вам, і мне.

На тым і развіталіся. Так беспрацоўная са Светлагорска Н. М. пазбавілася свайго і бацькоўскага багацця, бо выявілася, што яе вакол пальца абвялі дзве махляркі, якія так умела разыгралі вышэйпамянёны «спектакль». Між іншым, час ад часу яны ўносяць у яго «сцэнарый» такія кульмінацыйныя трукі, якія нібы заварожваюць іхніх кліентаў. Таму касірка ашчаднага банка з таго ж Светлагорска Т. С. уручыла «лекарцы» 112 «зялёных», 50 тысяч расійскіх, 350 тысяч беларускіх рублёў, тры залатыя пярсцёнкі і два ланцужкі, а беспрацоўная з Рэчыцы Т. В. — 1800 «баксаў», дзевяць пар залатых завушніц, пяць ланцужкоў і дзевяць пярсцёнкаў. Праўда, у гэтых выпадках «экстрасенс» змяніла сваё «імя» на Марыю Міхайлаўну і Марыю Іванаўну. Але сутнасці справы гэта не мяняе: падманутыя жанчыны зараз кусаюць сабе локці, а махляркі шукаюць новых кліентак. Няўжо яны не трапяць у рукі міліцыі?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# Ад ідэі рэфарміравання эканомікі на рыначных прынцыпах да дзяржаўнага рэгулявання?

*(Заканчэнне. Пачатак у № 292).*

Для таго, каб рэальна прыцягнуць замежныя інвестыцыі, неабходна карэнным чынам змяніць падыход да працэсаў прыватызацыі.

Па-першае, не трэба баяцца прадаваць дзяржаўную ўласнасць у прыватныя (няхай нават замежныя) рукі. Праблема заключаецца не ў тым, у чыёй уласнасці знаходзіцца прадпрыемства, а ў тым, як гэта прадпрыемства забяспечвае беларускім грамадзянам задавальненне іх спажывецкага попыту і як яно стварае рабочыя месцы. Вопыт паказвае, што заходнія менеджэры з гэтым звычайна спраўляюцца значна лепш, чым нанятыя беларускім урадам дырэктары.

Па-другое, у працэсе прыватызацыі неабходна рэальна ацаніць прыватызуемую маёмасць. Знос асноўных прамыслова-вытворчых фондаў складае ў рэспубліцы ў сярэднім 47 працэнтаў, а ў некаторых галінах — 50 пры каэфіцыенце абнаўляльнасці 0,3—2,5 працэнта. Пераважная частка асноўных фондаў устарэла маральна і не здольна выпрацоўваць канкурэнтаздольную, па сусветных стандартах прадукцыю. Тым не менш, гэта ўстарэлае абсталяванне беларускае кіраўніцтва калі і згодна прадаць, то па цэнах, якія цяжка прызнаць разумнымі. Натуральна, што заводы па такой цане і з такім абсталяваннем ніхто не хоча купляць, паколькі ў многіх краінах свету ёсць многа незагружаных, значна больш эфектыўных вытворчых магутнасцей.

Цана прадпрыемства сёння вызначаецца не коштам яго асноўных фондаў, а яго месцам на рынку (кантролем пэўнага сегмента рынку) і здольнасцю выжываць у канкурэнтнай барацьбе. Па гэтых крытэрыях рэальная цана большасці беларускіх прадпрыемстваў вельмі невялікая, а практыка ацэнкі маёмасці прадпрыемстваў, якая прымяняецца, — заганная. Па сутнасці яна з'яўляецца скрытым рычагом падрыву працэсаў прыватызацыі.

Пры стратнасці прадпрыемстваў, адсутнасці рэальных планаў іх фінансавага аздараўлення ці іх невыканання дзяржава павінна прымаць меры для прызнання такіх прадпрыемстваў банкрутамі з іх перадачай ў прыватную ўласнасць за сімвалічную цану (напрыклад, за 1 рубель).

### Развіццё вытворчай сферы

Сакраментальным пытаннем з'яўляецца вызначэнне напрамкаў прыцягнення інвестыцый, якія змогуць выратаваць прамысловасць Беларусі і забяспечыць далейшае развіццё вытворчага сектара эканомікі.

Ужо робіцца відавочным, што найбольш сур'ёзны удар па беларускай прамысловасці быў нанесены, калі Расія адмовіла ў прадастаўленні значнай часткі дзяржаўных абаронных заказаў і пераразмеркавала іх на прадпрыемствы расійскага ВПК.

У той жа час няма надзеі, што нашы прадпрыемствы, якія працавалі на абарону, змогуць пераключыцца на мірныя рэйкі і выпрацоўваць сродкі вытворчасці для мірных мэтаў.Справа ў тым, што ў краінах СНД інвестыцыйны попыт сур'ёзна знізіўся, а на тых прадпрыемствах, дзе ідзе тэхнічнае пераўзбраенне, аддаюць перавагу імпартнаму абсталяванню. Сусветны ж рынак сродкаў вытворчасці даўно падзелены, і беларускія тавары страчваюць нават тыя рынкі, дзе яны раней маглі больш-менш паспяхова канкурыраваць за кошт дэмпінгавых цэн.

Значыць, буйныя прамысловыя прадпрыемствы, якія не маюць магчымасці атрымаць ваенныя заказы і не здольныя паспяхова выйсці на сусветны рынак, Беларусі проста непатрэбны. Такія прадпрыемствы трэба разбуйняць і перапрафіляваць на выпуск новых тавараў.

Узнікае складаная сітуацыя і з вытворчасцю спажывецкіх тавараў. Айчынныя складанатэхнічныя тавары неканкурэнтаздольныя ў параўнанні з дарагімі вырабамі такіх фірмаў, як «Panasonic», «Sony», «Bosh», «Philips» і іншых салідных міжнародных карпарацый, якія клапоцяцца аб якасці сваіх тавараў. У адносінах да «нізкая цана — не вельмі высокая якасць» айчынныя прадпрыемствы ўступаюць ганконгскім, тайваньскім, тайландскім, кітайскім і іншым вытворцам: тавары з Азіі больш танныя, чым беларускія вырабы з аналагічнымі, адносна невысокімі якаснымі характарыстыкамі. Па таварах лёгкай прамысловасці сур'ёзнымі канкурэнтамі для Беларусі з'яўляюцца Турцыя і Кітай.

Ці можна абараніць унутраны рынак высокімі мытнымі пошлінамі, выпрацоўваць і прадаваць тавары ў асноўным для свайго народа? Можна меркаваць, у рамках мытнага саюза гэта нерэальна. На высокія мытныя пошліны з пачуцця салідарнасці з малодшым партнёрам Расія не пойдзе, таму што ў гэтым выпадку рызыкуе атрымаць высокія мытныя бар'еры на свой экспарт (а Расіі ёсць што вывозіць). Важна ўлічваць і наступнае: асноўная частка беларускага насельніцтва проста не мае грошай для набыцця такой колькасці спажывецкіх тавараў, каб падтрымаць айчынную прамысловасць.

Ва ўзнікшай абстаноўцы застаецца адзін выхад: прыцягваць замежныя кампаніі і выходзіць на міжнародны падзел працы. У гэтым плане Беларусь знаходзіцца ў выгадным геаграфічным становішчы, аднак гэтага недастаткова для прыцягнення інвестараў. Замежныя кампаніі перш за ўсё зацікаўлены ў надзейнасці сваіх інвестыцый, якую забяспечваюць безумоўнае захаванне дзеючых на тэрыторыі законаў і падзаконных актаў.

Але калі наша кіраўніцтва і будзе строга выконваць прымаемыя законы, то можа з'явіцца шанц у тым выпадку, калі мы зможам зрабіць больш таннай рабочую сілу ў рэспубліцы.

Замежны інвестар лічыць за лепшае ўкладваць грошы ў краіны з адносна таннай рабочай сілай, што забяспечвае яму дадатковы прыбытак. Аднак у нашай рэспубліцы кошт рабочай сілы пры адносна стабільным курсе долара і росце ўнутраных затрат хутка рос. Толькі пры рэальным аслабленні валютнага рэгулявання і пры значным паніжэнні курса нацыянальнай валюты кошт рабочай сілы ў рэспубліцы рэзка панізіцца. Акрамя таго, у гэтым выпадку будзе выгадны і экспарт з Беларусі ў іншыя краіны. Гэта ў канчатковым выніку можа прыцягнуць і замежныя інвестыцыі. Аб тым, што замежныя інвестыцыі магчымы, сведчыць, у прыватнасці, такі факт. У 1996 годзе прыток замежных інвестыцый у рэспубліку ў сферу інфармацыйнага бізнесу павялічыўся на 90 працэнтаў, у банкаўскую і страхавую справы — на 30, у сферу абслугоўвання — на 3.

### Удасканаленне грашова-крэдытнай сістэмы

У сферы грашова-крэдытнага абарачэння неабходны паступовы пераход ад адміністрацыйнага размеркавання фінансавых рэсурсаў да рэгулюемага грашовага рынку.

Разам з тым, улічваючы рэаліі сацыяльна-бытавой абстаноўкі ў РБ, нейкі час непазбежна захаваюцца такія формы кантролю над аперацыямі крэдытных устаноў, як прамое абмежаванне аб'ёмаў крэдытаў, устанаўленне гранічных памераў працэнтных ставак, абмежаванняў па відах фінансавай дзейнасці банкаў і г. д.

З інструментаў ускоснага рэгулявання ў пераходны перыяд на першы план выходзіць дысконтная стаўка Нацыянальнага банка РБ, якая цяпер істотна заніжана ў сувязі з тым, што прывязана да афіцыяльных, а не рэальных тэмпаў інфляцыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Суб'ектам гаспадарання (у тым ліку і дзяржаўным прадпрыемствам) не павінны абмяжоўвацца правы ў выбары банкаў, у якіх яны хацелі б адкрыць рахункі. Тыя дзяржаўныя (ці калядзяржаўныя) банкі, якія знаходзяцца ў складаным фінансавым становішчы, трэба разбуйняць і аказваць ім фінансавую дапамогу для паспяховага функцыянавання на фінансавым рынку.

Уздзеянне на надзейнасць камерцыйных банкаў неабходна ажыццяўляць пры дапамозе даволі высокай нормы рэгулявання (не менш як 20 працэнтаў). Аднак з мэтай заахвочання доўгатэрміновага крэдытавання прапануецца налічваць працэнты на рэзервы банкаў, у партфелі якіх доля доўгатэрміновых крэдытаў перавышае 15 працэнтаў.

Мэтазгодна таксама адмяніць нормы рэзервовых патрабаванняў на дэпазіты з тэрмінам пагашэння звыш 12 месяцаў. Гэта дасць магчымасць павысіць працэнты па гэтаму віду дэпазітаў і значыць павысіць іх прывабнасць, павялічваючы тым самым узровень зберажэнняў, якія могуць быць выкарыстаны для інвестыцый. Такія меры актыўна прымяняюцца ў развітых краінах.

**Аляксандр ЛУЧАНОК,**
**кандыдат эканамічных навук,**
**загадчык аддзела Інстытута**
**эканомікі АН Беларусі.**

*(Заканчэнне будзе).*

# Палёт, небяспечны для жыцця. І «ўсяго толькі» за медалямі...

**...Разгон быў, што называецца, проста класны. Імклівы катэр стралой пранёсся ўздоўж трампліна, спартсменка сканцэнтравалася, сабраўшы ў кулак усё: нервы і волю, мужнасць і майстэрства. І раптам... Ужо пры выхадзе (не, не пры выхадзе, ў прамым сэнсе слова пры вылеце — настолькі быў імклівы разгон) на трамплін яна зрабіла нешта нечаканае, проста недаравальнае: хутчэй за ўсё, спалохаўшыся маючага адбыцца неверагоднага па далёкасці палёту скачка, яна адкінула ўбок фал... Рабіць у водналыжным спорце такое проста забаронена! Некантралюемы кульбіт у паветры працягваўся па інерцыі ўсяго некалькі імгненняў. Многія з прысутных — удзельнікі чэмпіянату, трэнеры, суддзі, балельшчыкі — схапіліся за сэрцы. Удар аб ваду быў глухі і моцны...**

А ПРЫТОМНЕЛА Іра Турэц толькі праз паўтары гадзіны — у адным са шпіталяў прыгарада англійскай сталіцы. Першае, што прашаптала, убачыўшы побач Віктара Віктаравіча: «А як выступіла Алеська?» І да горла Віктара Наважылава, які пабачыў на сваім спартыўным і трэнерскім шляху ўжо не адзін такі выпадак, падступіў камяк.

— Усё добра, Ірка! Навошта ж ты зрабіла так?! Колькі разоў казаў я вам: фал нельга выпускаць з рук ні пры якіх абставінах...

Толькі потым я даведаўся: выпадак з Ірай Турэц для большасці суддзяў, спецыялістаў, трэнераў і нават удзельнікаў чэмпіянату Еўропы па водных лыжах сярод юніёраў хаця і стаў нечаканым, аднак не быў чымсьці неверагодным, раней імі нябачаным. Тым не менш, перапалох быў вялікі: той факт, что маладая спартсменка страціла прытомнасць і доўгі час не прыходзіла ў сябе, узрушыў літаральна кожнага. І толькі адзін «бос» з расійскай каманды, у якога я паспрабаваў высветліць, чым такі выпадак звычайна заканчваецца, ахрысціў здарэнне па-свойму — ледзь не сімуляцыяй...

Што ж, падумалася мне, няхай табе, чалавеча, суддзёй будзе Бог!

Са страсеннем мазгоў і вялікай ранай на падбародку мы ўсё ж забралі тады Іру Турэц з англійскага шпіталя. Віктар Наважылаў расказаў мне потым, што такое з ёй сёлета ўжо здаралася... А ўбачыўшы ў адказ мой здзіўлены выраз твару, ён інтэлігентна прамаўчаў: маўляў, што вы, аматары спорту, ды і журналісты, ведаеце пра таямніцы спорту...

...Таямніцы спорту. І сапраўды, што гэта такое?

**Адны** «бачаць» у іх бляск медалёў і кубкаў, узыходжанне на п'едэстал, чуюць гукі фанфар і мелодыі нацыянальных гімнаў...

**Другія** «бачаць» дагаворныя матчы, падтасоўкі вынікаў спаборніцтваў — нават вельмі высокага ўзроўню...

**Трэція** «адчуваюць» у тых таямніцах вялізныя скрытыя грошы: камерцыйныя старты, рэкламныя, спонсарскія, дабрачынныя сродкі...

«Бачаць», «адчуваюць» што-кольвечы ў таямніцах вялікага спорту і чацвёртыя, пятыя, дзесятыя... На вялікі жаль, вельмі мала хто бачыць і адчувае ў іх, несумненна, самае-самае галоўнае — **Працу!**

Іру Турэц, наколькі мне вядома, вярнулі ў строй крыху больш чым праз месяц. Віктар Наважылаў, як і заўсёды ў такіх неардынарных, складаных і цяжкіх сітуацыях для яго асабіста, узняў, што называецца, на ногі ўсю мінскую медыцыну. З дапамогай самых высокакваліфікаваных медыкаў ён найперш пастараўся пераканаць родных Ірыны ў тым, што, нягледзячы на сумны зыход таго старту ў Англіі, трагедыі, дзякуй Богу, не здарылася, драматызаваць падзеі зусім не варта, а ў маладой спартсменкі наперадзе — вялікая будучыня. Яно так: Іра па-сапраўднаму таленавітая, настойлівая, працавітая і шчырая... Цяжка, вядома, меркаваць, наколькі тыя довады аказаліся для родных аргументаванымі. Сама ж Турэц нават пасля такіх двух, на працягу аднаго спартыўнага сезона, узрушэнняў развітвацца з вялікім спортам зусім не збіраецца.

**Многія віды спорту называюць спортам мужных, смелых, не пабаюся гучнага слова — адчайных людзей. І не выпадкова: гэта — зусім не перабольшанні. Водныя лыжы — адзін з гэтых відаў.**

Гісторыя развіцця іх у нашай рэспубліцы налічвае роўна трыццаць гадоў. І не проста налічвае... Сам тэрмін «Гісторыя водналыжнага спорту» ў нас павінен пісацца з вялікай літары.

Як моцна памыляліся мы, не адно дзесяцігоддзе лічачы, што «гісторыю асобы не вызначаюць»... Далдонілі гэту, нібыта «вялікую думку», невядома кім і калі кінутую нашаму штучнаму неардынарнаму грамадству, у сродках масавай інфармацыі, школьных і студэнцкіх аўдыторыях, у лекцыях і дакладах на самым высокім узроўні. І хаця раз-пораз з'яўляліся людзі, якія сваімі справамі і ідэямі, а дакладней — працай, начыста адхілялі тую «думку», грамадства з падачы ідэолагаў цвёрда стаяла на сваім. Стаяла ў палітыцы, у навуцы, культуры і адукацыі, у эканоміцы... І нават — у фізічнай культуры і спорце, якія на словах былі па-за палітыкай, а на справе спрыялі вырашэнню многіх вялікіх і малых канкрэтных пытанняў і спраў.

Але гэта — іншая тэма.

З сярэдзіны шасцідзесятых гадоў стэрэатып мыслення аб тым, што «гісторыю асобы не вызначаюць», узяўся паламаць «нехта» Віктар Наважылаў. Узяўся не ў палітыцы (ведаў і выдатна разумеў: пугаю кавадла не рассячэш!), не ў навуцы (дзе, дарэчы, меў ужо даволі прыстойныя набыткі і ў якой калегі прадказвалі добрую будучыню), і нават не ў спорце ў цэлым (на якім ён, шчыра кажучы, быў проста зацыклены), а ў адным, новым для нас відзе яго — водных лыжах.

Чаму ж менавіта ў іх? Сёння Віктар тлумачыць гэта проста, вельмі нават проста: любоў, якая прыходзіць адзін раз і назаўсёды! Так гэта ці не, але ж, як кажуць, было, было... У 1964-м, упершыню ўбачыўшы водныя лыжы, ён ужо на наступны год стаў першым у гісторыі чэмпіёнам Беларусі па водналыжнаму спорту.

— Стаў чэмпіёнам і зразумеў: гэта — **маё,** — прыгадвае Віктар Віктаравіч часы больш чым 30-гадовай даўнасці.

А літаральна на наступны год паволі пайшла па рэспубліцы пагалоска пра нейкіх фанатаў-дзівакоў, што носяцца па вадзе на нейкіх спецыяльных лыжах на вадасховішчы «Пціч» пад Мінскам, прымацаваўшыся да катэра звычайнай вяроўкай... Праўда, той, хто бачыў гэта на свае вочы, заўсёды дадаваў: відовішча проста цудоўнае, ажно дух займае!

Неўзабаве пра дзівакоў дазнаўся сам Пётр Міронавіч Машэраў. І не толькі дазнаўся... Хутчэй за ўсё, пачуў наш тагачасны слынны і вельмі добразычлівы да людзей кіраўнік аб тым, што водныя лыжы — вядома ж, не як від спорту, а як захапленне — вельмі ўжо ў пашане ў белакаменнай: многія з высокапастаўленых чыноў (ледзь не сакратары і члены Палітбюро ЦК КПСС, а што датычылася міністраў СССР — дык тое было дакладна) рэгулярна гадзіну-другую «ганяюцца» на гэтых дзівосных лыжах нават па Маскве-рацэ (у дужках зазначу: гэта не анекдот! Так было на самай справе. Федэрацыю водналыжнага спорту СССР, напрыклад, доўгі час узначальваў Іван Фралоў — спачатку член ЦК КПСС і галоўны рэдактар газеты «Правда», а пазней — сакратар ЦК партыі. Я сам аднаго разу бачыў яго на водных лыжах). Вылучыўшы неяк вольную хвіліну, Машэраў наведаў Пціч, каб на свае вочы ўбачыць тых фанатаў. Выказаўшы шчырае захапленне справай энтузіястаў, вельмі цёпла пагутарыўшы з Віктарам Наважылавым, Пётр Міронавіч паабяцаў сім-тым дапамагчы, пажадаў плёну ў трэніроўках і высокіх паказчыкаў на самага высокага рангу спаборніцтвах.

Слова сваё партыйны кіраўнік рэспублікі тады стрымаў. Сапраўднае свята было ў толькі што створаным спартыўным водналыжным клубе «Алімпія» на Пцічы, калі па даручэнню Машэрава водналыжнікам купілі самы мадэрновы па тым часе катэр югаслаўскай вытворчасці.

У добры час, што называецца, было выказана Машэравым і пажаданне вялікіх поспехаў на спаборніцтвах і турнірах. І хаця сцвярджаюць, што лічбы — рэч сухая, без іх тут проста не абысціся.

Выхаванцы спартыўнага клуба «Алімпія» за 30 гадоў яго існавання звыш 50 разоў станавіліся чэмпіёнамі свету і Еўропы. На іхнім рахунку 17 сусветных і кантынентальных рэкордаў, а рэкорд Марыны Амяльянчык у фігурным катанні на лыжах з'яўляецца рэкордам рэкордаў — ён трымаецца ўжо 12 (!) гадоў. На чэмпіянатах і першынствах былога Савецкага Саюза водналыжнікі «Алімпіі» заваявалі звыш 300(!) медалёў. Сярод тых, хто мае дачыненне да гэтых узнагарод, заслужаныя майстры спорту Інеса Потэс, Марына Амяльянчык, Юлія Грамыка, майстры спорту міжнароднага класа Генадзь Важнік, Віктар Мельнік, Аляксандр Мінянок, Вольга Стальнова, Дзмітрый Яскевіч, Алег Надзін, Вольга Паўлава, Алена Мазоўка, Сяргей Нізоўкін, Аляксандр Кадылінскі, Святлана Кабялка, Алег Кулеш... І, нарэшце, факты-лічбы з біяграфіі самаго першапраходцы водналыжнага спорту ў Беларусі, заснавальніка клуба «Алімпія», заслужанага трэнера СССР і БССР Віктара Віктаравіча Наважылава: 18 гадоў ён узначальваў зборную Савецкага Саюза, 30 гадоў кіруе зборнай нашай рэспублікі.

Трыумф?! Безумоўна.

Пераможнае шэсце па спартыўных арэнах кантынента і свету?! Так.

Звон медалёў і кубкаў?! Вядома ж.

Гукі фанфар і мелодыя гімна? Безумоўна...

Аднак як рэдка і мала ўспамінаем і гаворым мы пра іх працу — штодзённую, шматгадзінную, у прамым сэнсе слоў — да сёмага поту, да крывавых мазалёў на руках!

У спякоту і дождж, ранняй вясной і позняй восенню яны — на трэніроўках, тут, на стаўшай родным домам Пцічы. Дзесяткі, а то і сотні разоў паўтараюць зноў і зноў камбінацыі, скачкі, фігуры, трукі. Рукамі, нагамі, увогуле ўсім целам пасля дзвюх-трох такіх трэніровак, паводле шчырых прызнанняў мне «зорак» з каманды Наважылава, ужо практычна не валодаеш... Аднак назаўтра ўсё паўтараецца спачатку.

А яшчэ — такія, як апісаныя ў самым пачатку гэтага артыкула, падзенні, зрывы, няўдала выкананыя элементы... Бывае — і так часта! — усё: расчараванні і нездаволенасць (трэнера — вучнем і вучня — трэнерам), слёзы і нават абяцанні кінуць усё гэта назаўсёды... Ды дзе там!

Многіх, ды практычна ўсіх, водналыжнікаў (вядома ж, спартсменаў, а не аматараў пакатацца на лыжах па азёрнай ці рачной роўнядзі) спасцігаюць страсенні і пераломы, іншыя моцныя, сур'ёзныя і небяспечныя для здароўя траўмы. Але... Мінае месяц, другі, паўгода — і яны зноў тут, на Пцічы. І зноў пачынаюцца будні: раскаткі, пракручванні — спачатку ў думках, а потым і на вадзе — ранейшых праграм: складаных, рызыкоўных... І пры гэтым амаль ніхто — ні вопытны і сталы ўжо 25- ці 30- гадовы майстар, ні толькі пачынаючыя хлопчык ці дзяўчынка — не скардзіцца, не расчароўваецца. Слабавольныя, баязлівыя, слабахарактарныя ў водналыжны спорт проста не ідуць!

...Яны не хочуць спагад, паслабленняў ці спачуванняў да сябе. Ім бы трошкі больш **увагі**: што-кольвечы з інвентару, амуніцыі. І — **павагі**: што мы ведаем пра іхнія штодзённыя будні, урэшце — пра іх саміх, гэтых мужных, адчайных, баявых Майстроў!

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*Мінск—Лондан—Мінск.*

# ГАЗЕТА Ў СКЛАДЧЫНУ

НЕЯК У ВЁСЦЫ Каз'яны Браслаўскага раёна гасцяваў у знаёмага настаўніка. Зазірнуў «на агеньчык» былы калега гаспадара. Між іншым зайшла размова і пра падпісную кампанію. Пазнейшы госць успомніў:

—Дык што, Іосіфавіч, як раней: ты — «Звязду», я —«Народную»? Ці можа памяняем якую газету?

Мне растлумачылі, што яны спецыяльна выпісваюць розныя газеты, каб потым можна было абмяняцца. Выпісваць некалькі выданняў, як раней, сёння не выпадае. Дарагавата.

— Што там, у нас некаторыя вяскоўцы складаюцца і выпісваюць газету на дзве-тры хаты.

Пасля гэтага выпадку мяне зацікавіла: а ўвогуле, як і што чытае сёння глыбінка? З перыядычным друкам, падпіскай на яго больш-менш сітуацыя зразумелая. Яскрава гаворыць пра гэта зніжэнне тыражоў газет. Але ж для нашага грамадства, у тым ліку і для нашай правінцыі, ва ўсе гады савецкай улады вялікае значэнне мелі бібліятэкі. Як сховішча кніг, перыядычных выданняў.

І ў гэтай справе, як у большасці іншых, у гады развітога сацыялізму была дасягнута высокая ступень цэнтралізацыі. Яна, уласна кажучы, захавалася і да сённяшняга дня. У кожным раёне існуе цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, якая аб'ядноўвае ўсе сельскія, пасялковыя бібліятэкі. «У корані», зразумела, раённая бібліятэка, якая мае найбольшы кніжны фонд. А ўсе раённыя цэнтралізаваныя бібліятэчныя сістэмы «замыкаюцца», напрыклад, у Віцебскай вобласці на абласны бібліятэчны калектар. Дырэктар яго Ірына Лук'янава расказвае:

— Нам удалося захаваць бібліятэчную сістэму ў вобласці. А на 21 сельскі раён гэта каля 800 бібліятэк. Горшая сітуацыя з бібліятэкамі тэхнікумаў і ПТВ, прафсаюзнымі, тэхнічнымі бібліятэкамі. Але і для існуючых нялёгкія часы. Галоўнае — недахват грошай. Тыя сродкі, якія адпускаюцца на закуп кніг, дазваляюць адпраўляць на раён некалькі, а то і адзін экземпляр нейкага выдання. Хоць і накіроўваюцца работнікі гандлю для закупу кніг у Маскву, Санкт-Пецярбург — разнастайнасцю выданняў пахваліцца цяжка.

З гэтымі словамі нельга не пагадзіцца. Мне рэгулярна даводзіцца бываць у Пастаўскай раённай бібліятэцы. І калі сёлета знайшліся сродкі для таго, каб падпісацца на хаця б асноўныя перыядычныя выданні, то з кнігамі сітуацыя пагаршаецца з кожным годам. Сёння ці паступае ў бібліятэку трэць кніг ад таго аб'ёму, што было раней. Калі ўлічыць, што бібліятэка пазбавілася ад літаратуры з яўнай ідэалагічнай афарбоўкай мінулых гадоў, што фонд яе старэе, — малюнак не зусім радасны. Новая кніга становіцца тут падзеяй.

А чытачоў, між тым, более. Гэта адзначалі ўсе работнікі раённых бібліятэк, з кім даводзілася размаўляць. Раней, што тут хаваць, бывала і такое, што для справаздачнасці, для таго, каб захаваць ці павысіць катэгорыю бібліятэкі, яе работнікі завадзілі і «мёртвыя душы». Цяпер гэта не патрэбна, рэальная колькасць чытачоў, асабліва ў раённых цэнтрах, ужо дазваляе і без прыпісак прэтэндаваць на стан бібліятэкі з высокай наведвальнасцю. І ўжо сярод чытачоў узнікаюць прапановы аб арганізацыі платнай выдачы кніг. Прапановы, на мой погляд, абгрунтаваныя. Сёння харошую і вельмі дарагую кнігу набыць у краме можа не кожны. А вось знайсці некалькі тысяч для таго, каб узяць яе на пэўны тэрмін у бібліятэцы зможа.

У апошнія дзесяцігоддзі развітога сацыялізму кніга, як гаворыцца, шырока пайшла ў масы. І тлумачыцца гэта, вядома ж, не толькі тым, што савецкія людзі, дзякуючы павышэнню свайго матэрыяльнага ўзроўню, сталі купляць мэблю, якой вельмі пасавалі кніжныя наборы. Рос культурны ўзровень людзей, выдавалася ж не толькі ідэалагічна выверaная літаратура. Так што сёння практычна ў кожнай сярэдняй сям'і ёсць большы ці меншы кнігазбор. Ды толькі ці папаўняецца ён у апошнія гады? Гаворка тут не ідзе пра сталічную інтэлігенцыю, пра людзей, для якіх літаратура — прафесіянальны занятак. Не, сярэдняя сям'я ў правінцыі. Наколькі сведчыць мой вопыт, мае назіранні— калі і з'яўляюцца навінкі, то ў асноўным гэта так званыя «бліскучыя». Кнігі ў супервокладках, само знешняе афармленне якіх сведчыць аб змесце. Зусім нядаўна нашым людзям выдадзены дазвол на чытанне літаратуры такога кшталту. І цікавасць зразумелая. Да таго ж сур'ёзных кніг выдаецца ўсё менш, ды і кошт некаторых такіх выданняў яўна перавышае пакупную здольнасць сярэдняга грамадзяніна.

У такой сітуацыі бібліятэка, і толькі яна, можа дапамагчы сапраўднаму чытачу. Але і ў бібліятэках напор «бліскучых» кніг вельмі моцны.

Паглядзім на сітуацыю крыху зводдаль: калі ў сталіцы, абласных цэнтрах і іншых буйных гарадах бібліятэкі яшчэ больш-менш паспяхова спраўляюцца са сваімі функцыямі, бібліятэкі ў раённых цэнтрах хоць нешта ды атрымліваюць з абласных бібкалектараў, то ў самой глыбінцы, на вёсцы, у невялікіх мястэчках бібліятэкі апынуліся ў апошні раз уролі самых абдзеленых. Пра кнігі гаворка ўжо амаль што і не ідзе. Няма магчымасці ў такіх бібліятэках выпісаць нават перыядычныя выданні, найчасцей справа заканчваецца тым, што на бібліятэку выпісваецца раённая газета.

Вось што расказвае Марыя Баравік, бібліятэкар з Падсвілля Глыбоцкага раёна, член Саюза пісьменнікаў.

— У нашым населеным пункце каля трох тысяч жыхароў, можна сказаць, каля двухсот чалавек актыўных чытачоў, ды яшчэ пяцьсот дзяцей, якія таксама цягнуцца да кнігі. А вось што мы можам ім прапанаваць? Стары кніжны фонд, старыя даведнікі і энцыклапедыі. Ды што там, сёлета ў бібліятэку не паступіла наводнай беларускай кніжкі. Не ведаю, як там у гарадах, а ў нашай глыбінцы людзі больш ці менш чытаюць. Звяртаю ўвагу на тое, што нават наша мясцовая інтэлігенцыя — медыкі, настаўнікі і г. д. — менш сябруюць не толькі з кнігай, але і з газетай. Можна тлумачыць усё дарагоўляй выданняў, але, напэўна, не толькі ў гэтым прычына.

У апошнія гады на Віцебшчыне яўна акрэслілася наступная тэндэнцыя: у сельскіх, асабліва невялікіх бібліятэках адбываецца так званы перагляд нагрузак. І бібліятэкары пачынаюць працаваць ужо не на поўную стаўку, а напалову, часам на адну чвэрць стаўкі. І, дарэчы, вялікіх пярэчанняў з іх боку няма. Хоць і ёсць пэўныя страты ў заробку, але гэта не такія вялікія грошы. Затое ў работнікаў бібліятэк з'яўляецца шмат вольнага часу. А на вёсцы, дзе ў кожнага чалавека сёння немалая гаспадарка, шмат зямлі — гэта вельмі важна. Людзі цудоўна разумеюць, што, апрацоўваючы зямлю, гадуючы жывёлу, яны будуць для сям'і мець больш, чым бавячы час у бібліятэцы. Такім чынам, падсобная гаспадарка пакрыху з'ядае нашы сельскія бібліятэкі. Іх пакуль што на Віцебшчыне налічваецца каля васьмісот. Але колькі з іх сёння працуюць з поўнай эфектыўнасцю?

Як мне здаецца, цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма, такая вялікая колькасць гэтых устаноў — спадчына нядаўняга мінулага, з якой нам не трэба спяшацца развітвацца. Бо, як бы дрэнна ні працавала бібліятэка, якім бы бедным ні быў яе фонд — яна ўсё роўна з'яўляецца ў нашай беднай, закінутай усімі вёсцы ачагом культуры. І няхай зараз у неацепленую бібліятэку ў аддаленай вёсцы за дзень прыйдзе ўсяго адзін наведвальнік, які-небудзь дапытлівы хлопчык. Магчыма, праз гады гэты хлопчык стане славаю нашага народа.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**
*Віцебская вобласць.*

**Яшчэ зусім нядаўна Савецкі Саюз справядліва лічыўся самай чытаючай краінай у свеце. Магчыма, гэтаму факту садзейнічала абсалютная даступнасць кніг. Да таго ж бібліятэкі, дэфіцыту ў якіх не адчувалася, дзякуючы сваім багатым кніжным фондам былі ў стане задаволіць любое запатрабаванне чытача. Аднак мінула зусім нямнога часу — і сітуацыя змянілася з дакладнасцю да наадварот: сёння вялікая колькасць кніжнага тавару ўжо не прыцягвае позіркі шматлікіх пакупнікоў, і зусім не з-за адсутнасці да іх з нашага боку цікавасці. Прычына больш чым празаічная — адсутнасць у кнігалюбаў сродкаў на задавальненне свайго інтэлектуальнага «апетыту». Такім чынам, сёння адзінай крыніцай запаўнення кніжнага «вакууму» застаецца бібліятэка. Вось толькі цікава, як у далося ёй перажыць цяжкія часы...**

**Гэтую праблему і даследуюць карэспандэнты «Звязды».**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ...наведаць пасялковую бібліятэку

СТАЛІЦА, ШТО НІ КАЖЫ, заўсёды знаходзіцца ў больш выгадным становішчы. А таму са сваёй «інспекцыяй» я вырашыла накіравацца ў звычайную пасялковую бібліятэку і выбрала для гэтага г. п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна. Маленькай яе назваць ніяк немагчыма, бо кніжныя фонды смілавіцкай бібліятэкі налічваюць каля 18 тысяч экземпляраў (па памерах — гэта другая пасля цэнтральнай у г. Чэрвені бібліятэка раёна). Аднак маё пытанне «Чым жыве бібліятэка сёння?» выклікала ў старшага бібліятэкара Ірыны Васільеўны Гарбацюк горкую ўсмешку. Чаму горкую, мяркуйце самі. Ці могуць выклікаць аптымізм у работнікаў кніжнага храма наступныя лічбы: летась бібліятэчныя паліцы тут папоўніліся 152 навінкамі. Сёлета яшчэ горш: каля 70(!) кніг (прычым большасць з іх паступілі ўзамен згубленых чытачамі). Лепшыя часы для сельскіх бібліятэк скончыліся, як высветлілася, трычатыры гады таму, калі за год бібліятэка атрымлівала па 1100—1600 экземпляраў новых кніг, а спісвалася літаратуры значна менш, чым паступала (па 400—600 экземпляраў). Затое сёння кніжныя фонды значна «страцілі ў вазе»: так, у 1995 годзе бібліятэкай былі спісаны 1402 кнігі, ды і сёлета гэтая лічба наўрад ці зменшыцца. Але не спяшайцеся думаць, што на звалку адпраўляюць кнігі, якія пацярпелі ад часу ці ад рук неахайнага чытача. Зусім не! У макулатуру ператвараюцца толькі маральна ўстарэлыя кнігі і брашуры, якім не суджана больш ніколі знайсці свайго чытача.

Аднак існуе дырэктыва «зверху», згодна з якой бібліятэкам рэкамендуецца абмежаваць спісанне. Магчыма хтосьці спадзяецца, што хлам ад беражлівых да яго адносінаў ператворыцца ў золата? Калі б такое было магчыма...

Зрэшты, час бярэ сваё, і, па логіцы, на месца партыйнай літаратуры, якая адышла ў мінулае, сёння павінна заступіць новая, што адпавядае патрэбам часу. Але ж яе якраз і няма, ва ўсякім разе, у «правінцыяльных» бібліятэках. Напрыклад, мне паскардзіліся на адсутнасць у іх літаратуры па гісторыі Беларусі, у якой адчуваецца зараз вострая патрэба. Адсутнічае таксама сучасная навукова-папулярная літаратура і дапаможнікі для навучэнцаў. Тым больш, нікому нават днём з агнём не суджана знайсці тут творы сучаснай замежнай літаратуры. Адзінай крыніцай, дзякуючы якой у кнігалюбаў была магчымасць неяк арыентавацца ў сучасным літаратурным свеце, заставаліся літаратурныя часопісы, «таўстушкі», як іх ласкава называлі. Але і яе чытачы пазбавіліся: сродкаў на набыццё вядомых расійскіх перыядычных выданняў сёння няма. Як мне расказалі, адзін настойлівы малады чалавек, не знайшоўшы ў смілавіцкай бібліятэцы неабходнай яму «Иностранной литературы» не паверыў бібліятэкарам, якія паспачувалі яго гору, і накіраваўся па часопіс аж... у горад Чэрвень. Як жа ён здзівіўся, калі высветліў, што нават у раённай бібліятэцы на гэты год не аформлена падпіска ні на адзін расійскі літаратурны часопіс. Так што вельмі можа быць, што хутка такія імёны, як Юрый Кубланоўскі, Аляксей Цвяткоў, Навум Каржавін, Валерыя Нарбікава, Уладзімір Пялевін і многія-многія іншыя так і застануцца для чытача раённай, а тым больш сельскай бібліятэкі неадкрытымі.

Затое масавая літаратура, якая запаланіла ўсе кніжныя магазіны рэспублікі, пранікла, нягледзячы на сваю дарагоўлю, нават сюды. Кажуць, на дэтэктывы, меладрамы, «жахі» і фантастыку ёсць попыт, вось і з'яўляюцца на бібліятэчных паліцах творы сучасных замежных «класікаў» з інтрыгуючымі назвамі «Мёртвыя вочы», «Пярэваратні», «Дзіця кахання», «Касмічная лапа», «Помста», «Фантомы» (вышэйназваныя літаратурныя опусы — паступленні гэтага года). Аб густах, увогуле, не спрачаюцца... А вось заядлыя кнігалюбы смілавіцкай бібліятэкі, як мне паведамілі, перачытаўшы ўсю літаратуру, дастойную ўвагі, пайшлі «па другому кругу», таму руская класіка перажывае тут сваё другое (а магчыма, ужо і не другое) нараджэнне.

З вялікім задавальненнем чытаецца ў Смілавічах і беларуская літаратура. Затое ў спісе папаўненняў гэтага года я «знайшла» толькі чатырох беларускіх мэтраў: Я. Купалу, С. Грахоўскага, У. Караткевіча і В. Чаропку. Магчыма, менавіта гэтымі імёнамі вычэрпваецца нацыянальная літаратура? Проста няма сродкаў.

Так што думка Маркса і Энгельса аб тым, што кожны, у кім сядзіць Рафаэль, павінен мець магчымасць бесперашкодна развівацца, з'яўляецца актуальнай сёння як ніколі. Грашовыя сумы, якія выдзяляюцца на ўтрыманне кніжных храмаў сёння, прымушаюць сур'ёзна задумацца над тым, што ж будзе з імі заўтра. Бо ў Чэрвеньскім раёне, як паведамілі ў цэнтральнай бібліятэцы Чэрвеня, на падтрыманне ў бібліятэках жыцця ў гэтым годзе было выдзелена 15 млн. рублёў, а ў раёне ж 34 бібліятэкі! У суседзяў і таго горш: у Барысаўскім раёне выдзелена 12 млн. рублёў, Валожынскім — 6, Бярэзінскім — 5 млн. рублёў (заўвага: сюды не ўваходзіць кошт падпіскі на перыядычныя выданні). Але абсалютнымі «рэкардсменамі» ў сумным «хіт-парадзе», безумоўна, сталі Крупскі і Уздзенскі раёны, якія выдзелілі на высакародныя мэты аж па 2 і 1,5 млн. рублёў адпаведна!

Вось так і паміраюць бібліятэкі: толькі летась іх стала ў рэспубліцы на 93 менш, а ўсяго за пяць апошніх гадоў у краіне знікла 677 бібліятэк (6 з іх — у Чэрвеньскім раёне). Кажуць, што кніга — гэта люстэрка. Страшна, аднак, што, магчыма, хутка нам і паглядзецца не будзе куды.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**
*Мінская вобласць.*

*ПІСЬМО З КАМЕНТАРЫЕМ*

# Хто і як можа вылечыць ад псарыязу?

Рэгулярна чытаю вашу газету, якая, безумоўна, заваявала сэрцы многіх і многіх падпісчыкаў. У ёй ёсць шмат карыснай і цікавай інфармацыі, а галоўнае — павага да тых, хто яе чытае, а яшчэ клопаты аб людзях. Вось у мяне ўзнікла неабходнасць звярнуцца да вас па дапамогу. Справа ў тым, што цяпер тысячы людзей, у тым ліку і я, пакутуюць ад скурнай хваробы — псарыязу, якая проста унікальная па сваёй сутнасці: ні адзін медык-дэрматолаг яшчэ не вылечыў ніводнага такога чалавека. І нават не ведае сапраўднай прычыны, якая выклікае гэта захворванне, хоць і прытрымліваецца агульнага сцвярджэння: яно, маўляў, узнікае на нервовай глебе. Я згодны з гэтым, і у той жа час не згодны. Так, у мяне паявілася гэта неадступная хвароба пасля нервовага стрэсу ў дзевяноста першым годзе, у выніку адной сітуацыі, калі я цудам застаўся жывы. Пасля гэтага і пачалі паяўляцца на целе так званыя «бляшкі» — вялікія і малыя. І вось ужо пяць гадоў ніякіх зрухаў пры лячэнні. Пяць гадоў! Але ж дзесяткі тысяч людзей пакутуюць ад гэтай хваробы па дзесяць, дваццаць і больш гадоў, а калі яна спадчынная, то і ўсё сваё жыццё. Медыцына супраць яе бяссільная. Гэта адназначна. Я сустракаўся з дзесяткамі людзей, якіх «лечаць» ужо працяглы час — і ўсё безвынікова.

...Цяпер паявіліся розныя «кашпіроўскія» і да іх падобныя, якія за 700 «зялёных» абяцаюць дапамагчы метадам кадзіравання. З адным такім «доктарам», прытым, паколькі ён лічыць сябе вядомым, хацелася сустрэцца асабіста. Але пасля таго, як яго сакратарка за любую плату запісала па-за чаргой мяне на сеанс кадзіравання да «цуда-доктара», а я сказаў, што калі ён ашуквае людзей і мяне таксама абвядзе вакол пальца, то яму давядзецца кадзіравацца ў хірургаў-траўматолагаў, мне тая ж сакратарка заявіла, што гарантыі на поспех няма. І, як я затым высветліў, нікога ад псарыязу гэты «лекар» не пазбавіў.

Я, паважаная рэдакцыя, хачу звярнуцца праз вашу газету да людзей — маіх сяброў па няшчасцю, каб яны не верылі розным «кашпіроўскім» і да іх падобным.

Толькі народная медыцына здольна вылечыць і мяне, і многіх-многіх іншых, хто мае патрэбу ў дапамозе. Толькі «бабкі-шаптухі» (як кажуць у народзе) могуць і ўмеюць лячыць гэту хваробу. Медыкі самі раяць тым, хто ім блізкі па той ці іншай прычыне, ісці да такіх бабулек.

А яшчэ я хачу звярнуцца да сваіх суайчыннікаў і папрасіць дапамогі. Хто валодае сакрэтам лячэння псарыязу, будзьце міласэрныя і падзяліцеся гэтым сакрэтам. Дзеля дзетак, якія сотнямі пакутуюць ад яго, дзеля жанчын-маці, дзеля нас, мужчын, якія не могуць знайсці сродак ад гэтай бяды.

**Сяргей ЯЦЫНОВІЧ.**
*г. Маладзечна.*

***Выказаць думку па гэтаму допісу мы папрасілі намесніка начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Генрыха КАРНІЦКАГА:***

— Адразу хачу сказаць, што аўтар пісьма ўяўляецца з нейкім дзіўным поглядам на свет. Чалавек і сам не ведае, каму верыць, бо нікому не верыць. А калі сказаць больш канкрэтна пра яго хваробу, то з псарыязам, калі гэта не цяжкая форма, можна жыць доўгія гады. Так, бываюць і складаныя, цяжкія формы, але, відаць, не ў дадзеным выпадку. Іншая справа ў тым, што на сённяшні дзень, сапраўды, этыялогія паходжання гэтага захворвання да канца не даследавана, дакладна невядома. Так званае этыялагічнае поле бывае розным і яго могуць выклікаць многія прычыны. А калі невядома прычына, зразумела, складана лячыць.

Вось таму, пэўна, некаторыя хворыя, як і С. Яцыновіч, не вераць нам, медыкам, а больш спадзяюцца на «бабак-шаптух», так званую народную медыцыну, розных лекараў тыпу «кашпіроўскіх». Аднак, зазначу, мы добра ведаем, што гэта за «лекары» — яны ў дзяржаўнай медыцыне не працуюць, а перш-наперш з'яўляюцца прыватнымі прадпрымальнікамі. І ваш чытач пераканаўся, што яны яму не змаглі дапамагчы нават за салідную суму грошай. Усё ж зусім не выпадкова людзі, хворыя на псарыяз, больш звяртаюцца да нас, медыкаў, а не да знахараў. Чаму? Калі ласка, пабывайце, напрыклад у скурным дыспансеры, пагутарце з яго пацыентамі і вы пачуеце, што іх тут вылечылі ад розных хвароб нават цяжкіх формаў.

Хоць, у прынцыпе, чалавек можа знайсці нейкі народны сродак, які сапраўды яму дапаможа, але верагоднасць тут вельмі малая. Усе гэтыя і кадзіраванні, і нашы звычайныя традыцыйныя метады, як бачым, хвораму не дапамаглі. І хутчэй за ўсё цяжка сказаць, хто тут падкажа нейкія мазі, калі яны невядома з чаго прыгатаваныя, сумніўнай якасці і саставу. Той жа С. Яцыновіч проста патраціць шмат часу на пошукі, займецца толькі гэтай праблемай, забыўшыся на ўсе астатнія, бо, як кажуць, ён ужо «зацыкліўся» на «сваім» псарыязе. Больш таго, зацягвае ў сваё кола іншых такіх хворых!

Перш за ўсё трэба навучыцца з ёй жыць. Галоўнае — ні ў якім разе не варта гэта захворванне заганяць «унутр» сябе.

У заключэнне хачу параіць гэтаму хвораму: няхай ён звернецца да нас, у наша ўпраўленне, мы яго накіруем да дэрматолагаў-прафесіяналаў, і, магчыма, яны яго вылечаць.

**Публікацыю падрыхтаваў Іван БРАЛКА, рэдактар аддзела пісьмаў «Звязды».**

Малюнак А. СКРЫПКО.



*Анатоль ЦЮЦЮНОЎ:*

# «ТОЛЬКІ ТЭХНІЧНЫ ПРАГРЭС МОЖА ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ПОСПЕХ СПРАВЫ»

***Сёння, безумоўна, усім цяжка. Сумны пяцігадовы юбілей распаду некалі вялікай краіны аптымізму нашаму народу не дадаў, наадварот, чым далей да таго ракавога снежаньскага дня 1991 года, тым больш ясна ўсведамляем, якая бездань чакала Беларусь пасля разрыву адзінага эканамічнага арганізма. Падзенне, безумоўна, было, аднак калапс не наступіў. І перш за ўсё дзякуючы намаганням грандаў айчыннай індустрыі, якія здолелі выстаяць у бушуючым моры эканамічных і фінансавых узрушэнняў. Сярод тых, хто не толькі не зменшыў аб'ёмаў выпуску прадукцыі, але і няспынна нарошчвае свой вытворчы патэнцыял, — адкрытае акцыянернае таварыства «Керамін». Створанае на базе вытворчага аб'яднання «Мінскбудматэрыялы», ААТ увабрала ў сябе вопыт некалькіх пакаленняў стваральнікаў будматэрыялаў, з якімі сёння заваёўвае ўсё новыя і новыя рынкі.***

***Высокую ацэнку вытворчым здабыткам яго працаўнікоў даў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, які ў жніўні гэтага года наведаў ААТ «Керамін», і дэталёва азнаёміўся з умовамі працы і быту работнікаў прадпрыемства, роўнага якому няма, бадай, не толькі ў СНД, але ва ўсёй Еўропе.***

***Што сёння найбольш адрознівае нашых суайчыннікаў ад замежнікаў? Перш за ўсё нейкія насцярожанасць, падазронасць, пахмурнасць. Вядома ж, пры такім жыцці не да весялосці. А калі днямі давялося прайсці па цэхах «Кераміна», то ўбачылі зусім іншых людзей: вясёлыя ўсмешкі на тварах, жарты, смех. Тут не ведаюць, што такое прастоі, збоі ў вытворчасці, затаварванне, работнікі рэгулярна атрымліваюць заработную плату, а бюджэт — неабходныя грашовыя адлічэнні. Словам, жывуць і працуюць, як у цывілізаваным свеце. А вось аб тым, як гэта ім удаецца, — наша гутарка з прэзідэнтам ААТ «Керамін», дэпутатам парламента Анатолем Цюцюновым, які ўжо на працягу дзесяці гадоў узначальвае калектыў.***



*Прэзідэнт ААТ «Керамін» Анатоль ЦЮЦЮНОЎ.*

ХОЦЬ ПРАЙШЛО ЎЖО некалькі месяцаў, як з канвеера новай аўтаматызаванай лініі РКС-1650 па выпуску паліванай пліткі 300х300х8 міліметраў сышлі першыя вырабы, але і сёння ў памяці свежыя падрабязнасці, звязаныя з гэтай знамянальнай падзеяй, — гаворыць Анатоль Дзмітрыевіч. — Пуск лініі, аналагаў якой не мае ніводная краіна СНД, — сама па сабе з'ява унікальная. Тым самым мы выйшлі на ўзровень вытворчасці, што, без перабольшання, адпавядае еўрапейскаму ўзроўню. Лінія была закуплена (дарэчы, на сродкі ААТ «Керамін») у вядомай італьянскай фірмы «Sacmi», якая з'яўляецца вядучай кампаніяй у свеце па выпуску абсталявання для вытворчасці керамікі.

Чаму мы, калі даводзіцца лічыць літаральна кожную капейку, пайшлі на выдаткаванне немалых сродкаў, каб наладзіць новую вытворчасць? Спяшацца з гэтым быццам бы не было ніякіх прычын: прадукцыя і так ішла, што называецца, з колаў, бо попыт на яе быў і застаецца высокі. Аднак жыць трэба не толькі сённяшнім днём, але і смялей зазіраць у будучае, звяраць свой час па новаму гадзінніку, глядзець, што зараз дыктуюць тэхнічны прагрэс і мода. Некалі мы выпускалі керамічную плітку 150х150х міліметраў. Аднак да таго часу ў свеце павысіўся попыт на больш буйную па памерах плітку. А таму пачалі выпускаць яе памерам 200х200, потым 250х200, 300х250 мм. А пакупнік патрабаваў ужо новых узораў: 300х300 мм . Дарэчы, менавіта на такую плітку зарыентавана Еўропа. І з гэтым нельга не лічыцца. Таму, узважыўшы ўсе «за» і «супраць», параіўшыся з акцыянерамі, цвёрда вырашылі: трэба набываць новую лінію. А паколькі заканадаўцамі моды тут з'яўляюцца італьянцы, звярнуліся ў фірму «Sacmi», з якой, дарэчы, і раней мелі справу. Тыя згадзіліся паставіць яе нам за адпаведную плату, змантыраваць і запусціць у вытворчасць. Улічваючы пэўныя фінансавыя цяжкасці, нам, безумоўна, хацелася неяк зменшыць выдаткі, звязаныя з яе набыццём. Мы разважалі так: навошта везці з Італіі металічныя каркасы, нейкія дадатковыя прыстасаванні і аснастку, калі ўсё гэта можна вырабіць на месцы? Намнога танней і прасцей. Падлічылі выдаткі. Аказваецца, можна такім чынам зэканоміць недзе 18—20 працэнтаў ад сабекошту лініі. Не сказаць каб італьянцаў вельмі задаволіла наша прапанова: ім хацелася атрымаць за ўсё цалкам і спаўна. Але і яны мусілі пайсці на кампраміс, бо сёння ва ўсім свеце адчуваецца востры дэфіцыт сродкаў. У сваю чаргу паабяцалі самы жорсткі кантроль за той часткай дэталяў і вузлоў, што будзем вырабляць у сябе. Недзе ў маі пачалі мантаж, а ўжо ў жніўні лінія была адладжана і запушчана ў вытворчасць. Для нас — двайная радасць: атрымалі сучасную ўстаноўку магутнасцю каля мільёна квадратных метраў паліванай пліткі 300х300 міліметраў у год, а яшчэ зэканомілі каля 20 працэнтаў сродкаў. Вось што значыць знайсці агульную мову з пастаўшчыком.

**— «Керамін» — марка вядомая не толькі ў нашай краіне, але і ў блізкім і далёкім замежы. А які ўвогуле асартымент вашай прадукцыі?**

— Наша прадпрыемства выпускае фасадную цэглу, плітку для ўнутранай абліцоўкі, плітку для падлогі (звычайная і паліваная), чарапіцу плоскую і вільчаковую, плітку фасадную, маты мінералаватныя будаўнічыя, умывальнікі, унітазы з бачкамі, наборы кафлі для печаў і камінаў, архітэктурную кераміку і шмат чаго іншага. Вытворчай праграмай на гэты год прадугледжваецца вырабіць 54,4 мільёна штук цэглы, 384,9 тысячы ўмоўных кубаметраў мінеральнай ваты і вырабаў з яе, 5,4 мільёна квадратных метраў пліткі для ўнутранай абліцоўкі сцен і больш як мільён квадратных метраў керамічнай пліткі для падлогі, а таксама каля 305 тысяч квадратных метраў фасаднай пліткі, 7,56 мільёна штук чарапіцы і каля 600 тысяч санітарных керамічных вырабаў — усяго на сотні мільярдаў рублёў. Дарэчы, за 11 месяцаў гэтага года план выкананы на 106,2 працэнта, а прырост выпуску прадукцыі за лістапад у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў 129,3 працэнта.



*Жывапісцы брыгады эксперыментальнага ўчастка Алена Каваль, Наталля Увальжанава, Вольга Горбач і Алена Жук (брыгадзір) дэманструюць узоры распісанай імі керамікі.*

**— Рост аб'ёмаў вытворчасці назіраецца і на многіх іншых прадпрыемствах. Аднак некаторыя з іх працуюць на склад. А як у вас з рэалізацыяй?**

— Наша прадукцыя ўвогуле на складах не залежваецца. Больш таго, як і ў былыя застойныя часы, транспарт з многіх рэгіёнаў рэспублікі і краін СНД гадзінамі чакае загрузкі, бо на складах амаль пуста, усе вырабы адразу ж паступаюць у гандлёвую сетку. А ўсё таму, што, па-першае, як ужо гаварылася, імкнёмся ісці ў нагу з модай, пастаянна адгукаемся на запатрабаванні рынку. І тут немалаважную ролю адыгрывае маркетынгавая служба. Па-другое, прываблiваем спажыўца высокай якасцю, багатым і разнастайным асартыментам. І, вядома ж, не апошнюю ролю адыгрывае цана. Так, квадратны метр паліванай пліткі мы рэалізуем прыкладна па курсу 4,3 долара. Для прыкладу: такая ж італьянская плітка, якая па сваёй якасці адпавядае нашай, ідзе па 10 — 12 долараў за квадратны метр. Лічыць пакупнік умее, а таму прадукцыя з маркай ААТ «Керамін» — усюды нарасхват. Асноўным спажыўцом нашых вырабаў была і застаецца Расія. Недзе каля 80 працэнтаў керамічных плітак ідзе менавіта туды. І наша асноўная задача не згубіць расійскі рынак, не дапусціць туды канкурэнтаў з Еўропы. Значная колькасць нашай прадукцыі паступае ў краіны СНД, а таксама ў Прыбалтыку, Італію, Польшчу, Румынію, Аўстрыю, Германію.

Нядаўна давялося прысутнічаць на выстаўцы адной французскай фірмы, якая вырабляе металічныя каркасы для камінаў. Прыкінулі ў думках, што калі б удалося скааперавацца з імі і пачаць абліцоўку тых камінаў нашай кафляй, то магчымасці, якія адкрываюцца пры наладжванні такога супрацоўніцтва, увогуле цяжка сабе ўявіць. Будуюцца тысячы катэджаў, сотні тысяч дачных домікаў. А хто ў наш час адмовіцца ад зручнага каміна, аздобленага выдатнай кафляй, да таго ж даволі таннай?!

Значная частка керамічных вырабаў рэалізуецца праз наш спецыялізаваны магазін «Кераміка», што працуе побач з прахадной прадпрыемства. Цэны тут значна ніжэйшыя, чым у звычайных магазінах, бо прадукцыя адпускаецца без гандлёвай надбаўкі. Да таго ж пакупнік можа заказаць патрэбны выраб. Зноў жа, наяўнасць падобнай гандлёвай кропкі дапамагае вывучаць попыт пакупнікоў, што мае немалаважнае значэнне ў правядзенні маркетынгавай палітыкі. Адкрыты нашы фірменныя секцыі пры сталічных магазінах ЦУМ, «Будматэрыялы», «Рыгонда», гандлёвым доме «Крыніца» ў Маладзечне, гандлёвых цэнтрах у Гродне і Брэсце. Афармілі пастаянна дзеючыя выстаўкі нашай прадукцыі ў Маскве, Пецярбургу, Кіеве, Ташкенце і іншых гарадах краін СНД і Прыбалтыкі. Адным з фактараў паспяховага збыту прадукцыі з'яўляецца пастаянны ўдзел ААТ «Керамін» у буйнейшых міжнародных і міжрэгіянальных выстаўках: Позненскім кірмашы ў Польшчы, а таксама ў Вене, Маскве, Пецярбургу, Туле.. Толькі ў апошнія гады прадукцыя прадпрыемства адзначана трыма прэстыжнымі міжнароднымі ўзнагародамі: «Залатой зоркай» (Італія), «Залатым глобусам» (Данія), і «Факелам Бірмінгама» (ЗША).

**— Не ад лёгкага жыцця многія прадпрыемствы згортваюць сацыяльную праграму. А як вырашаюцца гэтыя пытанні ў вас?**

— Вядома, і нам нялёгка ўтрымліваць на балансе сацыяльную сферу. Нямала сродкаў адымае жыллёвая праграма. У 1990 годзе ўвялі ў эксплуатацыю 57-кватэрны жылы дом, праз год — 200-кватэрны... І сёлета пабудавалі 214-кватэрны жылы дом. Цяпер на прадпрыемстве створаны жыллёва-будаўнічы кааператыў па будаўніцтву 71-кватэрнага жылога дома. А ўсяго на балансе жыллёва-камунальнага аддзела прадпрыемства — 69,9 тысячы квадратных метраў жылля. Утрымліваем таксама 5 інтэрнатаў, у тым ліку два сямейныя на 159 сем'яў і тры — на 1475 месцаў. Цяпер ніводзін работнік ААТ «Керамін» не пражывае на прыватнай кватэры. Апрача таго, сацыяльная сфера прадпрыемства аб'ядноўвае тры дзіцячыя садзікі на 650 месцаў, дзіцячы аздараўленчы лагер «Сасновы бор» на 350 дзяцей у змену. Маем камбінат грамадскага харчавання з 7 сталовымі і 6 буфетамі, цэх кандытарскіх вырабаў, магазін кулінарыі...

**— Ваша прадпрыемства з'яўляецца адкрытым акцыянерным таварыствам. А якія перавагі дало працаўнікам гэта самае акцыяніраванне?**

— Сапраўды, 3 чэрвеня 1994 года вытворчае аб'яднанне «Мінскбудматэрыялы» было пераўтворана ў ААТ «Керамін». Яно аб'ядноўвае 6195 акцыянераў, у тым ліку 3975 непасрэдна работнікаў прадпрыемства. А цяпер адносна таго, што дало нам акцыяніраванне. Дывідэнды пакуль невялікія, бо асноўны прыбытак укладваем у развіццё вытворчасці, далейшае пераабсталяванне ўсіх працэсаў з улікам патрабаванняў часу. Бо толькі тэхнічны прагрэс можа забяспечыць поспех справы. Затое кожны работнік прадпрыемства добра разумее, што ён з'яўляецца рэальным уладальнікам пэўнай часткі маёмасці, якая пяройдзе ў спадчыну яго дзецям, унукам... Адсюль і адносіны да справы — не як падзёншчыка, староннягa назіральніка, а як уласніка, гаспадара вытворчасці.



*Аўтаматызаваная лінія працуе, а ў цэху амаль не бачна людзей.*



*Начальнік цэха № 1 Павел Траскоўскі на цэнтральным пульце кіравання.*



**Матэрыялы выпуску падрыхтавалі спецыяльныя карэспандэнты Уладзімір ГОЙТАН, Мікалай АМЕЛЬЧАНКА (фота).**

**У СУСЕДЗЯЎ**

# СВЯТА ЖЫЦЦЯ ПА-КІЕЎСКУ

**У адрозненне ад катлет па-кіеўску гэтая «страва» не прыходзіцца даспадобы значнай колькасці жыхароў сталіцы Украіны і рэспублікі ў цэлым.**

## БАЛЬ СПРАЎЛЯЕ ДОЛАР

**З інфармацыі Міністэрства статыстыкі**

*Рэальныя даходы насельніцтва Украіны ў верасні 1996 года знізіліся ў параўнанні са снежнем 1995 года на 6 працэнтаў і на 23 працэнты — у параўнанні са студзенем гэтага года.*

З восені на Украіне «ходзіць» грыўня. Грашовая рэформа адбывалася пад сцягам стабілізацыі нацыянальнай валюты. Ва ўсякім разе, суседзі пазбавіліся «фанцікаў». Тым не менш, грыўня трымалася нядоўга. Марудна, але няўхільна ўкраінская валюта «спаўзае». Калі 19 кастрычніка 1 долар у Кіеве каштаваў 1,76—1,77 грыўні, то 13 лістапада — ужо 1,82. У пунктах абмену валюты няма хіба толькі дробязі, але не «баксаў», за якімі б выстройвалася чарга ў чаканні «ін'екцый». Або людзі на Украіне не хварэюць на доларавую ліхаманку, або не чакаюць перамен (зразумела, да горшага), або не маюць грошай, каб ператварыць іх у іншыя грошы. Усе тры здагадкі маюць месца.

Зніжэнне даходаў украінцаў тлумачыцца няўхільнай інфляцыяй, якая за 8 месяцаў склала 32,2 працэнта. Мінімальная зарплата суседзяў складае 15 грыўняў — каля 10 долараў. Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўю ў верасні быў роўны дзвюм «мінімалкам», а кошт набору прадуктаў харчавання (колькасць іх — 22), неабходных для падтрымання жыццяздольнасці, ацэнены прыкладна ў 30 долараў. У мінімальным спажывецкім бюджэце беларуса на харчаванне кожнага члена сям'і з чатырох чалавек прыпадае таксама прыкладана 30 долараў. Але беларус за гэтыя сродкі мог набыць у лістападзе амаль у 2 разы больш свініны, ялавічыны, малака, тварагу, смятаны, свежамарожанай рыбы і ў паўтара раза — яек і масла.

Аднолькава ў Кіеве і Мінску каштуюць цвёрдыя сыры, хлеб, цукар, а таксама садавіна і агародніна. У сувязі з вышэйсказаным узнікае пытанне: калі мінчане не могуць працягнуць месяц на азначаную суму, як гэта ўдаецца братам-украінцам?

## ЧУЖЫЯ НА СВЯЦЕ ЖЫЦЦЯ

**З інфармацыі Міністэрства статыстыкі Украіны**

*Афіцыяльны ўзровень беспрацоўя па рэспубліцы па стану на 1 кастрычніка 1996 года складаў 1,42 працэнта ад агульнай колькасці працаздольных і роўны 298 тысяч чалавек.*

Статыстычныя даныя заўсёды грашаць недакладнасцю. Каля трохсот тысяч беспрацоўных у дзяржаве, якую насяляе звыш 50 мільёнаў чалавек, пры ўмове непастаяннай работы буйной прамысловасці, — лічба, далёкая ад рэальнасці. Калі не кожны другі, то кожны трэці ўкраінец дакладна знаходзіцца ў пошуку працы ці займаецца чаўночным бізнесам. Поліэтыленавыя сумкі ў клетку, што сталі візітнай карткай чаўнака любой краіны, — з'ява такая ж звыклая для Украіны, як і для Беларусі. У падземных пераходах і ля кіеўскіх магазінаў гандляркі дадаюць да традыцыйнага беларускага цыгарэтна-семкавага асартыменту смажаныя арэшкі. У астатніх месцах, дзе гандаль забаронены, гандлююць усім, што мае хоць нейкую каштоўнасць. Камерцыйныя ларкі, што працуюць дапазна, не пазбаўлены асноўнага хадавога тавару — спіртнога. Прынамсі, пляшка гарэлкі кіяўляніну абыходзіцца танней, чым мінчуку.

Хворая эканоміка нарадзіла беспрацоўе, беспрацоўе дазволіла расквітнець дармаедству і жабрацтву. Людзі прывыклі да працягнутых рук. Такая карцінка не новая і ўжо наўрад ці каго моцна кране. А да катэгорыі звычайна маладых жанчын з поснымі тварамі і дзецьмі на руках (пояць іх ці якое снатворнае даюць, каб тыя не варушыліся?) кіяўляне адносяцца з пагардай. Зрэшты, запарожскія мадонны ўжо дабраліся і да Мінска. Скарачэнне колькасці беспрацоўных на Украіне ў бліжэйшы час не прагназіруюць, а значыць, і атрад тых, хто «працуе жабраком», не хутка зменшыцца.

## А ШТО РАБОЧЫ КЛАС?

У адпаведнасці з інфармацыяй Мінстата Украіны, сярэдняя зарплата па рэспубліцы ў верасні была роўная 80 доларам. Калі гэтае сцвярджэнне дэталізаваць, то рабочыя прамысловых прадпрыемстваў атрымалі каля 100 долараў, а прадстаўнікі навукі і культуры — 60. Хаця «атрымалі» — сказана гучна. Выплаты зарплат у тэрмін на большасці бюджэтных і дзяржаўных прадпрыемстваў — рэдкасць. А калі гэта робіцца своечасова, то — натурай. Напрыклад, лідэр украінскай шыннай прамысловасці «Белацэркаўшына» расплачваецца з людзьмі «абуткам» для легкавых аўто. Рэалізаваць з выгадай гэты тавар складана: працоўных на прадпрыемстве звыш 9 тысяч, попыт не паспявае за прапанаваннем. Але людзі хоць нейкую капейку на хлеб выменьваюць. З прадстаўнікамі навукі і культуры прабіркамі ды падручнікамі не разлічышся, а таму чакаюць яны і чакаюць.

## А ТЫМ ЧАСАМ

30 верасня Украіна атрымала чарговую траншу крэдыту stand by Міжнароднага валютнага фонду ў памеры каля 100 мільёнаў долараў. Ужо пяты. Па словах намесніка прадстаўніка МВФ ва Украіне Алекса Сундакова, рэспубліка выконвае ўсе патрабаванні праграмы stand by.

У 1994-1995 гадах суседняя дзяржава атрымала ад МВФ 1.526 мільёнаў долараў, у 1996-м — каля 400 мільёнаў. Зараз Украіна пачала асваенне «расшыранага» крэдыту.

Як вядома, супрацоўніцтва з Міжнародным валютным фондам аўтаматычна выклікае цікавасць інвестараў да краіны. Суседзям грэх скардзіцца — у іх прыватызацыя ідзе, а значыць ідуць і замежныя інвестыцыі. Каб не быць галаслоўнай, прывяду прыклад. Кампанія Coca-Cola Amatil Ukraine Ltd. ужо ўклала ў эканоміку Украіны звыш 100 мільёнаў долараў і ў бліжэйшыя два гады мае намер укласці яшчэ 250 мільёнаў, а таксама пабудаваць трэці завод.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# «Адкрыты канал» вучыць цярпімасці і служыць дэмакратыі

**У сталіцы Германіі давялося пазнаёміцца з дзейнасцю незвычайнага для нас сродку масавай інфармацыі, які ўжо, відаць, стаў абавязковым атрыбутам свабоднага грамадства— «Адкрыты канал Берліна»і на якім няма штатных журналістаў, стылістаў, дыктараў і рэдактараў...**

Сярод дзесяткаў тэле-і радыёканалаў, даступных аўдыторыі ў многіх краінах Захаду, ёсць такія, дзе звычайныя гледачы і слухачы могуць быць не толькі імі, але і аўтарамі, стваральнікамі радыё-і тэлеперадач. Гэта так званыя «адкрытыя каналы», якія даюць магчымасць кожнаму грамадзяніну непадцэнзурна выказаць сваю думку, паспрабаваць сябе ў якасці вядучага і журналіста. У Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі такіх адкрытых каналаў дзейнічае каля чатырох дзесяткаў. Для грамадзян нашай краіны, у якой дзейнічае толькі адзін агульнанацыянальны тэлеканал з вядомай усім якасцю перадач і на якім не могуць выступіць не толькі звычайныя грамадзяне, калі яны маюць сваю думку, але і, напрыклад, кіраўніцтва былога Вярхоўнага Савета, прадстаўнікі апазіцыі,— такі канал можа паказацца нам нечым незвычайным і неажыццявімым у нас у бліжэйшай перспектыве.

Нездарма, відаць, група беларускіх журналістаў, якая нядаўна наведала «Адкрыты канал Берліна», упарта дапытвалася ў шэфа гэтага канала Ёргена Лінке, хто рэдагуе перадачы грамадзян і хто кіруе ім самім. Мы прывыклі ўжо, што тэлебачанне і радыё — гэта рэжымныя аб'екты, якія маюць стратэгічную важнасць для ўладаў, і таму абы-хто там «вяшчаць» не будзе. Юрген Лінке яўна не разумеў сутнасці нашых дапытванняў і шчыра патлумачыў нам, што сапраўды ніякай цэнзуры на адкрытым канале няма і што назначаны ён бургамістрам на гэтую пасаду пажыццёва, таму ніхто яго звальняць за нейкія непажаданыя выступленні не можа.

— Кожны чалавек можа звярнуцца да нас і стварыць сваю перадачу. Плаціць за гэта не трэба. Ніхто не мае пры гэтым ніякіх пераваг, ніякі адбор перадач не вядзецца, усё, што будзе падрыхтавана,— пойдзе ў эфір. Запісвайся ў журнал і чакай сваёй чаргі,— тлумачыць пан Юрген Лінке.— Аднак у тых, хто да нас прыходзіць, ёсць і абавязак: яны падпісваюцца пад заявай аб тым, што іх матэрыялы не супярэчаць існуючым законам. Калі яны гэта робяць — мы ім верым і ніякай цэнзуры не прадугледжваем. Яшчэ адна ўмова — ніякай рэкламы ў гэтых перадачах быць не павінна.

Ды і складана было б зрабіць папярэдні прагляд або праслухоўванне перадач адкрытага канала, калі значная частка іх робіцца ў прамым эфіры, а радыёпраграмы амаль на сто працэнтаў — жывыя. Калі хто не ўмее карыстацца тэхнікай і апаратурай, дык на адкрытым канале ёсць спецыялісты, якія гатовы іх навучыць гэтаму. Адзін чалавек мае права падрыхтаваць перадач не больш чым на тры гадзіны ў месяц, адна перадача павінна цягнуцца не даўжэй за гадзіну.

Фінансуецца гэты канал мясцовым самакіраваннем з падаткаў гараджан. На год яму патрэбна прыблізна 2 мільёны марак. Распаўсюджваецца ён штодзённа з 11 гадзін да позняй ночы па берлінскай сістэме кабельных сетак, да якой падключана каля паўтара мільёна гараджан. Радыёперадачы адкрытага канала слухачы могуць прыймаць на працягу 8-9 гадзін у суткі, і слухае іх прыблізна 30 тысяч чалавек.

Зразумела, што ёсць у такога тэлебачання і радыё свае прыхільнікі і праціўнікі. Склаліся ўжо цэлыя групы людзей, якія пастаянна карыстаюцца паслугамі гэтага радыё і тэлебачання, каб звяртаццца да сваіх калег, землякоў, сяброў па інтарэсах. Вельмі актыўна карыстаюцца гэтым каналам розныя нацыянальныя меншасці: туркі, харваты, курды і інш. У цэлым на нямецкай мове гучыць толькі каля 50 працэнтаў перадач, прадстаўнікі каля дзесятка нацыянальнасцей карыстаюцца гэтым каналам, ёсць перадачы нават на рускай мове, бо і рускамоўных у Берліне пражывае нямала — некалькі дзесяткаў тысяч. Выкарыстоўваюць гэты канал і розныя сацыяльныя групы, для якіх гэта зручны сродак падзяліцца інфармацыяй і запрасіць таварышаў да размовы.

Натуральна, што не абыходзіцца без дробных эксцэсаў. Да прыкладу, іранскія эмігранты, якія належаць да апазіцыі, часам рэзка трактуюць нейкія праблемы на сваёй Бацькаўшчыне, а іранскі консул у Берліне ў адказ на гэта скардзіцца берлінскаму бургамістру, і той, хоць, паводле слоў пана Лінке, ён цярпець не можа адкрыты канал, вымушаны тлумачыць консулу, што грамадзяне Германіі жывуць у дэмакратычных умовах і што адкрыты канал спрыяе дэмакратыі і свабоднаму выяўленню думак. Некалькі разоў па тэлефоне паведамлялі аб міфічных бомбах, якія нібыта закладзены ў студыях адкрытага канала. Гэта пан Лінке адносіць да працяглай варажнечы паміж туркамі і курдамі, што жывуць у Берліне. Але што дзіўна, сутыкаючыся у памяшканнях гэтага канала, туркі і курды, сербы і харваты адзін да аднаго ставяцца прыязна, бывае, што яны ветліва перадаюць мікрафоны і абсталяванне адны другім. Такім чынам, адкрыты канал спрыяе і талерантнасці.

Так што калі і ўзнікаюць якія праблемы, то толькі маральнага кшталту. Да прыкладу, неаднойчы гледачы адкрытага канала маглі пачуць з вуснаў занепакоеных грамадзян, што Гельмут Коль — ідыёт. Нічога страшнага — дэмакратыя, напэўна, у выбаршчыкаў ёсць свае прычыны каб так казаць. Ёсць і яшчэ некалькі тэм, закранаючы якія, няштатныя аўтары адкрытага канала часам балансуюць на мяжы дазволенага. Гэта праблемы сексу і неанацызму. Знакамітасцямі ўжо сталі прадстаўнікі адной самадзейнай творчай групы, якая абмяркоўвае ў прамым эфіры адкрытага канала праблемы інтымных адносінаў мужчын і жанчын, знаходзячыся ў гэты час у студыі абсалютна голымі. Цікавасць да іх перадач была вельмі высокая, але многія гледачы і пратэставалі, даказваючы, што такое відовішча шкоднае для іх дзяцей. Пан Лінке цярпліва тлумачыць такім гледачам, што тут няма ніякай парнаграфіі і што на іншых каналах можна сустрэць нямала яшчэ больш шкодных для маральнага здароўя сцэн насілля і іншага...

— Цікава бывала назіраць, калі студыю пасля голых удзельнікаў гэтай перадачы выпадала заняць прадстаўнікам ісламскіх фундаменталістаў. Нічога, цярпелі,— усміхаецца пан Лінке.

Так вось у Германіі вучацца ўзаемнай цярпімасці.

Куды больш складана з неанацыстамі, якія жадаюць выказаць свае погляды, але пакуль што, як сведчыць Ёрген Лінке, ні разу не парушылі закон, балансуючы на мяжы дапушчальнага. Пасля іх выступленняў звычайна прыходзяць антыфашысты, і завязваецца дыскусія, абмеркаванне праблем.

— Некаторыя палітыкі лічаць, што такія перадачы трэба забараніць, але я так не думаю. Калі забараняць такія праграмы, то праблема гэтым не будзе вырашацца. Больш важна і карысна адкрытае абмеркаване гэтых праблем. Кожны чалавек можа сюды прыйсці і стварыць перадачу супраць фашыстаў,— падкрэслівае шэф адкрытага канала пан Лінке.

Заходнія дэмакраты шляхам доўгага іх развіцця прыйшлі да такіх вось важных высноў, якія падкрэслівае ў нашай гутарцы шэф незвычайнага для нас адкрытага канала. Магчыма, з часам і мы зразумеем гэтыя простыя ісціны, і можа быць запазычым нават саму форму адкрытага канала каб пашырыць магчымасці нашых грамадзян выказваць свае меркаванні, абмяркоўваць набалелыя праблемы, вучыцца ўзаемнай цярпімасці і талерантнасці.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

Берлін — Мінск.

# З ПАШТОВЫХ МАРАК ГЛЯДЗЯЦЬ НА НАС СВЯТЫЯ...

**Рэспубліканскае аб'яднанне «Белпошта» падрыхтавала да выпуску выдатную серыю дзяржаўных паштовых знакаў. Яны ўпершыню адлюстроўваюць шэдэўры беларускага старажытнага іканапісу, якія з'яўляюцца гонарам Нацыянальнага мастацкага музея. Неўзабаве Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь увядзе іх у паштовы абарот.**

З шэрым, унушальнага выгляду будынкам, што стаіць у Мінску, у цэнтры горада, даўно знаёмы мінчане і шматлікія госці сталіцы. У ім месціцца Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь. Тут знаходзяцца творы самай значнай калекцыі тэмпернага жывапісу Беларусі канца XVI—XVII стагоддзяў.

Многія экспанаты з гэтай калекцыі прайшлі доўгі і цяжкі шлях свайго адраджэння з нябыту. Праз шмат гадоў яны паўсталі перад вачамі наведвальнікаў музея. Але многія іх яшчэ не бачылі.

На дапамогу прыйшоў выдавецкі цэнтр «Марка» рэспубліканскага Аб'яднання «Белпошта». Было выпушчана ў абарот пяць дзяржаўных знакаў паштовай аплаты. На кожным з іх адлюстраваны старажытнныя беларускія іконы. А ўся серыя ўпершыню прысвечана Нацыянальнаму мастацкаму музею са скарбамі выяўленчага мастацтва, што захоўваюцца ў ім.

Напрыклад, на адной з марак адлюстравана ікона «Выбраныя святыя» шарашоўскага майстра. На пазалочаным фоне з раслінным арнаментам трое святых. Калі глядзець на іх злева направа, дык з доўгай сівой барадой стаіць Васіль Вялікі. За ім, з невялікай шырокай карычневай барадой, — Рыгор Багаслоў у чырвоным сакасе. І нарэшце, з доўгай рыжай барадой — Іаан Златавуст у зялёным сакасе. Кожны з шасці айцоў царквы, што стаяць у адзін рад, левай рукой знізу падтрымліваюць вялікую кнігу. Гэта Евангелле.На другой паштовай марцы адлюстравана ікона 1668 года — «Ілля».




Не менш цікавая яшчэ адна ікона, таксама адлюстраваная на адной з марак серыі. Называецца яна «**Параскева**» і належыць да другой палавіны XVI стагоддзя. У перакладзе з грэчаскай «Параскева» азначае пяты дзень тыдня, ці «пятніца». Гэтая ікона, як і папярэдняя, знойдзена на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у 1921 годзе ў Слуцкім раёне.

Яшчэ адна ікона, адлюстраваная на адной з марак. называецца «**Багародзіца Адзігітрыя Смаленская**», датавана да XVI стагоддзем.

Ікона была знойдзена ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці, як і іншыя падобныя іконы, была рэстаўравана і цяпер з'яўляецца дастойным экспанатам Нацыянальнага мастацкага музея.

Вянчае гэтую тэматычную серыю дзяржаўных знакаў паштовай аплаты блок. У ніжняй яго частцы — схематычнае адлюстрванне Нацыянальнага мастацкага музея. У цэнтры блока яшчэ адно адлюстраванне іконы, якая была знойдзена ў 1918 годзе ў г. Магілёве. Называецца яна «Ражство Багародзіцы».

Гэтым блокам завяршаецца выпуск першай серыі паштовых марак на гэту тэму. На чарзе новыя выпускі з адлюстраваннем шэдэўраў, якія з'яўляюцца гордасцю Рэспублікі Беларусь. Так ствараецца і прадаўжаецца гістарычны летапіс беларускай зямлі і яе народа.

**Анатоль ЛІСОЎСКІ.**

# МЗС РФ абвяргае тэзіс аб тым, што Расія прад'яўляе тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Украіны

**У МЗС РС «з неўразуменнем успрынялі змешчаны ў заяве Вярхоўнага Савета Украіны ад 6 снежня тэзіс аб тым, што Расія нібыта прад'яўляе «тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Украіны і замахваецца на яе суверэнітэт». Аб гэтым заявіў у аўторак на брыфінгу ў Маскве афіцыяльны прадстаўнік МЗС РФ Генадзь Тарасаў.**

Ён нагадаў, што, «згодна з Канстытуцыяй РФ, вызначэнне і рэалізацыя знешняй палітыкі Расіі адносяцца да кампетэнцыі прэзідэнта і ўрада, пазіцыя якіх па гэтым пытанні добра вядома».

Што ж датычыць Чарнаморскага флоту, падкрэсліў Г. Тарасаў, то перагаворны працэс па гэтай праблеме працягваецца і мы «пераканаsuccessfully ў наяўнасці рэальных магчымасцей выхаду на ўзаемапрымальныя, кампрамісныя развязкі».

Адказваючы на пытанні журналістаў, ён падкрэсліў, што Расія не мае тэрытарыяльных прэтэнзій да Украіны. «Такая пазіцыя выканаўчай улады Расіі», — заявіў прадстаўнік МЗС РФ.

**Інтэрфакс.**

КРЫМІНАЛ

# Гусары падпольнага бізнесу...

***Хто не памятае ці не ведае каманду Клуба вясёлых і знаходлівых «Эскадрон гусар», якія прадстаўлялі Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча? Удалыя, стройныя хлопцы ў гусарскай форме часоў паручніка Ржэўскага здзіўлялі журы і публіку сваёй кемлівасцю, знаходлівасцю і артыстычнасцю. У барацьбе з імі прызнавалі сваё паражэнне мацнейшыя каманды краін СНД, а жаночая палавіна каманд, якія з імі гулялі, нават і не спрабавала змагацца, а адразу ж выкідвала белы флаг капітуляцыі. Міналі гады. Былыя курсанты, члены каманды КВЗ, станавіліся афіцэрамі, але па-ранейшаму заставаліся вернымі камандзе і працягвалі гуляць у КВЗ. Але, на жаль, не ўсе. Адзін з саставу некалі славутай каманды, Ігар Пятрашка, вырашыў сыграць ў КВЗ з Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь. І вось што з гэтага атрымалася.***

**У** РАДЖЭНЕЦ горада Слоніма, І. Пятрашка пасля заканчэння ваеннага вучылішча з Узброеных Сіл звольніўся, атрыманы дыплом ваеннага журналіста адклаў, бо паманіла камерцыя.

Аналагічныя думкі круціліся ў галаве другога прадстаўніка старажытнага беларускага горада Слоніма, Ігара Чыжыка, які закончыў Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут і прынёс клятву Гіпакрата. Аднак па атрыманай спецыяльнасці ўрача працаваць не захацеў. Ён таксама вырашыў заняцца камерцыйнай дзейнасцю.

Землякі сустрэліся ў горадзе Мінску, дзе абодва паспелі ажаніцца і займець нашчадкаў. Зразумеўшы адзін аднаго з паўслова, два Ігары пачалі ажыццяўляць свае камерцыйныя задумы. Але, у адрозненне ад гульні ў КВЗ, камерцыйныя здзелкі ажыццяўляюцца па зусім іншых законах і прынцыпах. Пры ажыццяўленні адной з такіх здзелак знаходлівасць і кемлівасць, набытыя ў камандзе КВЗ, не дапамаглі. Ваенны журналіст і ўрач, якія не адбыліся як спецыялісты, і тут прагарэлі на некалькі тысяч долараў ЗША.

Перад імі з усёй сваёй відавочнасцю паўстала праблема вяртання ўзятага крэдыту.

У адной з рэкламных газет Пятрашка прачытаў аб'яву аб продажы рэктыфікаванага спірту вышэйшай ачысткі. Добра ведаючы аб тым, што такі харчовы выраб, як гарэлка, заўсёды знойдзе збыт, Пятрашка вырашыў заняцца вырабам фальшывай гарэлкі і рэалізоўваць яе пад маркай сапраўднай. Да таго ж і Чыжык меў прафесіянальныя веды ў медыцыне і хіміі. І вось сябры вырашылі разбаўляць спірт вадой, разліваць, закаркоўваць яго ў гарэлачныя бутэлькі і рэалізоўваць пад выглядам гарэлкі, якую выпускае Мінскае абласное вытворчае аб'яднанне «Крышталь».

Першая партыя спірту ў 100 літраў была закуплена на грошы, якія засталіся ад былой камерцыйнай дзейнасці. Для падпольнага гарэлачнага цэха была нанята кватэра ў доме па вул. Бачылы. Пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі ёмістасцю 0,5 літра з наклеенымі на іх у заводскіх умовах этыкеткамі «Гарэлка «Руская» і таварным знакам Мінскага абласнога вытворчага аб'яднання «Крышталь» набылі ў прыёмным пункце шклатары каля універсама «Пралеска». Каўпачкі-коркі былі набыты ў не ўстаноўленага следствам мужчыны на Старажоўскім рынку. Там жа купілі і прыстасаванне для закаркоўвання бутэлек.

Падробнай гарэлкі меркавалася вырабіць многа. Аднак дваім справіцца з гэтай задачай было цяжкавата. Таму на дапамогу яны запрасілі земляка Яўгена Якімовіча і былога прапаршчыка Аляксандра Глухава. У абавязкі новапрынятых «супрацоўнікаў» уваходзіла разбаўленне спірту вадой, разліў сумесі ў бутэлькі і іх закаркоўванне. Пятрашка і Чыжык клапаціліся аб набыцці спірту, шклатары, а самае галоўнае — збыце падробленай гарэлкі.

Аднаго прыстасавання для закаркоўвання бутэлек з гарэлкай было мала. Якімовіч, каб паставіць «вытворчасць» на паток, папрасіў свайго дзядзьку вырабіць яшчэ два такія прыстасаванні. На дзядзькава пытанне, для чаго ўсё гэта, пляменнік адказаў, што выробленыя ім прылады будуць выкарыстоўвацца пры прачыстцы карбюратара аўтамашыны.

Атрымаўшы неабходныя прыстасаванні, яны разгарнулі вытворчасць фальшывай гарэлкі шпаркімі тэмпамі. Тэхналогія яе вырабу была простая. Адзін літр спірту разбаўляўся паўтара літрамі гатаванай вады. А затым вадкасць разлівалася ў бутэлькі.

У хуткім часе некалькі соцень бутэлек гарэлкі было выраблена. Частка з іх была рэалізавана у розных раёнах горада Мінска асобам, якія гандлююць спіртнымі напоямі «з-пад крыса». Цана рэалізацыі задавальняла абодва бакі — 15 тысяч рублёў за бутэльку. Але патрэбен быў аптовы пакупнік, які б змог купіць адразу вялікую партыю гарэлкі і тут жа разлічыцца за яе.

Тут на дапамогу Пятрашку і Чыжыку прыйшоў Я. Якімовіч, які пазнаёміў іх з непрацуючым жыхаром Мінска Дзмітрыем Бубянько. Распілі разам з Бубянько пару бутэлек самаробнай гарэлкі. І тут пачулі, што іх сабутэльнік раней працаваў у магазіне ААТ «Кроква», а таму папрасілі даведацца, ці можна прадаць у магазіне выробленую імі гарэлку. У якасці ўзору Бубянько была ўручана закаркаваная бутэлька фальшывай гарэлкі. З гэтым узорам ён прыйшоў да дырэктара магазіна Самойленкі. Агледзеўшы «тавар», які знешне нічым не адрозніваўся ад таго, што выраблялі на заводзе «Крышталь», і пераканаўшыся, што на адваротным баку этыкеткі стаіць прастаўленая ў заводскіх умовах дата выпуску, Самойленка згадзіўся ўзяць на рэалізацыю гарэлку, якую прапаноўвалі па 15 тысяч рублёў за бутэльку. Праз некалькі дзён на аўтамашыне «ВАЗ-21011», якая належала Д. Бубянько, у магазін была завезена першая партыя гарэлкі — 10 скрынак, затым яшчэ столькі ж. Усяго ў магазін ААТ «Кроква» было завезена для рэалізацыі 80 скрынак гарэлкі, за якія Самойленка заплаціў 24 мільёны рублёў. У Самойленкі 300 бутэлек гарэлкі, але ўжо па цане 16.500 рублёў за бутэльку, адразу ж набыў прадавец магазіна С. Лягуша. Набытай падробнай гарэлкай ён частаваў гасцей на сваім вяселлі.

Вытворчасць фальшывай гарэлкі набірала абароты. Улік яе не вёўся. Вырučаныя ад рэалізацыі гарэлкі грошы ішлі на пагашэнне даўгоў Пятрашкі і Чыжыка. Астатняя частка выручаных грошай ішла на закупку спірту, пустых бутэлек і прадуктаў харчавання. З гэтых жа грошай Пятрашка заплаціў Глухаву 70 долараў ЗША за ўзорна выкананую работу.

Міні-завод па вытворчасці моцнага напою працаваў ударнымі тэмпамі. З даўгамі вось-вось павінна было быць пакончана. Чысты прыбытак з дня на дзень павінен быў асесці ў кішэнях гарэлачных прадпрымальнікаў.

Аднойчы ў мікрараёне «Шабаны», дзе размяшчаўся падпольны гарэлачны заводзік, праводзіўся рэйд па папярэджанню і раскрыццю кватэрных крадзяжоў. Увагу супрацоўнікаў аператыўна-вышуковага аддзела УУС Мінгарвыканкома прыцягнулі чацвёра мужчын, якія выйшлі з таксі з поўнымі сумкамі і дзвюма каністрамі. У іх аказаліся пустыя бутэлькі з-пад гарэлкі з наклеенымі этыкеткамі «Гарэлка «Руская», а ў каністрах — вадкасць з пахам спірту. У кватэры, куды работнікаў міліцыі прывялі затрыманыя Пятрашка, Чыжык, Якімовіч і Глухаў, былі знойдзены 140 запоўненых і закаркаваных бутэлек гарэлкі, 500 пустых бутэлек, 97 літраў вадкасці з пахам спірту, коркі, скрынкі для бутэлек, прыстасаванні для закаркоўвання бутэлек.

Праведзеным следствам устаноўлена, што абвінавачваемыя за два няпоўныя месяцы «вытворчасці» вырабілі 2140 бутэлек падробленай гарэлкі з 428 літраў спірту. З указанай колькасці фальшывай гарэлкі 1600 бутэлек на суму 24 мільёны рублёў было прададзена дырэктару магазіна ААТ «Кроква» Самойленку, а 400 бутэлек на суму 6 мільёнаў рублёў — прадстаўнікам «хуткай алкагольнай дапамогі», якія тусуюцца ў вячэрні і начны час каля вакзалаў, рынкаў і магазінаў. На кватэры ў затрыманых канфіскавана прадукцыя, ад рэалізацыі якой яны маглі б атрымаць прыбытак звыш 7 мільёнаў рублёў.

Знаходзячыся пад вартай, абвінавачваемы І. Пятрашка напісаў заяву з просьбай змяніць яму арышт на падпіску аб нявыездзе. Сваю заяву ён матываваў тым, што яму неабходна ўдзельнічаць у фінальнай гульні КВЗ за каманду Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі «Эскадрон гусар». Следчае ўпраўленне УУС Мінгарвыканкома не палічыла неабходным задаволіць «такі пераканаўчы довад». І вось народны суд Партызанскага раёна сталіцы падвёў рысу пад дзейнасцю гарэлачных махінатараў, якія вырашылі сыграць у КВЗ з законам. Пятрашка, Чыжык і Якімовіч прыгавораны да трох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці, а Глухаў і Бубянько — да 2 гадоў, таксама з канфіскацыяй маёмасці.

У Дзмітрыя Бубянько у даход дзяржавы канфіскавана аўтамашына «ВАЗ-21011», на набыццё якой некалькі гадоў збіралі грошы ўсе члены яго сям'і.

Народны суд палічыў магчымым адбыванне пакарання падсудных на будоўлях народнай гаспадаркі.

**Мікалай КРАСНЕЎСКІ,**
**грамадскі карэспандэнт**
**аддзела права і маралі.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**19 снежня 1741 года** ў час цяжкай зімоўкі на адным з Камандорскіх астравоў памёр Іван Іванавіч Берынг, славуты расійскі мараплавец, кіраўнік двух Камчацкіх экспедыцый, першапраходзец праліва, які аддзяляе Азію ад Амерыкі (зараз носіць яго імя). У час адной з экспедыцый залажыў горад Петрапаўлаўск-Камчацкі.

**19 снежня 1788 года** нарадзіўся Сяргей Валконскі, генерал-маёр, дзекабрыст. Удзельнік Айчыннай вайны 1812 года і замежных паходаў. Член «Паўднёвага таварыства». Пасля паражэння паўстання 1825 года асуджаны на вечную катаргу ў Сібіры.

У гэты дзень **у 1880 годзе** нарадзіўся Джордж Кэтлет Маршал, амерыканскі генерал, дзяржаўны сакратар ЗША, прыхільнік, як пішуць савецкія энцыклапедыі, «халоднай вайны» і гонкі ўзбраенняў, ініцыятар так званага плана Маршала — праграмы аднаўлення і развіцця Еўропы пасля другой сусветнай вайны шляхам прадастаўлення ёй амерыканскай эканамічнай дапамогі.

**19 снежня 1900 года н**арадзіўся вядомы савецкі скульптар, народны мастак СССР, прэзідэнт Акадэміі мастацтваў СССР Мікалай Томскі. Аўтар помнікаў: Кіраву — у Ленінградзе, Леніну — у Берліне, шматлікіх партрэтаў і манументальна-дэкаратыўных скульптур.

**19 снежня 1906 года** нарадзіўся Леанід Ільіч Брэжнеў, генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, акрамя таго — чатыры разы Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы, тройчы Герой Народнай Рэспублікі Балгарыі, Герой Мангольскай Народнай Рэспублікі, Герой Польскай Народнай Рэспублікі, Герой Рэспублікі Куба, тройчы Герой Чэхаславацкай Сацыялістычнай Рэспублікі, кавалер ордэна «Перамога», васьмі ордэнаў Леніна, лаўрэат Міжнароднай Ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі», Ленінскай прэміі па літаратуры і г. д. Перыяд яго кіравання лічыцца самым спакойным у савецкай гісторыі, у знешняй палітыцы не быў дальнабачным палітыкам.

У гэты дзень **у 1915 годзе** нарадзілася славутая французская эстрадная спявачка Эдзіт Піяф.

### Народны каляндар

**Сёння — Мікола-зімовы**

*Свяціцель Мікалай — епіскап з малаазійскага горада Міры Лікійскія (IV ст.). З'яўляецца апекуном пакрыўджаных і пакутнікаў, а таксама маракоў, падарожнікаў.*

Адзін з самых шаноўных святых ва ўсходніх славян. Менавіта з гэтага дня пачынаецца сапраўдная зіма: «Да Міколы няма зімы ніколі». І Мікола-зімовы, і Мікола-летні (22 мая) як бы адкрывалі кожны свой сезон: «Мікола — сапраўдная зіма, Мікола — сапраўднае лета». Праўда, надвор'е часта ўносіла папраўкі ў народныя назіранні, і тады як бы ашуканыя людзі казалі: «Ніводнаму Міколе не вер ніколі». Затрымка зімы на Міколу была знакам, што марозы прыйдуць няскора і ўвогуле ўся зіма будзе бесталковая. Гаспадары казалі: «Беражы сена ад Міколы да Міколы і не бойся зімы ніколі» — прыказка вызначала прыблізна, колькі трэба трымаць у хляве жывёлу.

Стан надвор'я ў гэты дзень арыентаваў селяніна на пачатак веснавой сяўбы: калі іней будзе раней, чым 19 снежня (як, напрыклад, сёлета), то трэба сеяць ранні ячмень, калі пазней 19 снежня — позні. Іней на Міколу прадказвае добры ўраджай ільну.

### Цікава

Будаўнікі сярэдневяковых французскіх сабораў на кожныя тры бэлькі са звычайнай драўніны — дуба ці сасны — ставілі адну бэльку з дрэва каштана. Было заўважана, што пах гэтага дрэва адганяе павукоў, не дае ім сяліцца ў храме. Зараз у Францыі выпускаецца аэразоль на аснове конскага каштана, які пазбаўляе хатніх гаспадынь ад павуціны ў кутках.

### А яшчэ быў выпадак...

***Своеасаблівы рэкорд — паўсотні вяселляў на дваіх — пабіла гэтая пара.***

88-гадовы святар-баптыст Глен Вулф жаніўся 29 разоў. На гэты раз на 55-гадовай Ліндзе Эсенс, для якой, у сваю чаргу, гэты шлюб таксама не першы: да таго яна пабыла ў шлюбе 22 разы. Яны пазнаёміліся на ток-шоу, прысвечаным праблеме паўторных шлюбаў, і адразу адно аднаму спадабаліся, аднак злучыць свае лёсы змаглі толькі пасля таго, як Лінда развіталася са сваім папярэднім мужам. Маладажоны спадзяюцца, што гэты шлюб стане для іх апошнім.

### Дзесьці на белым свеце

Кіраўнік каліфарнійскага ку-клукс-клана Біл Олюерс аштрафаваны за забруджванне атмасферы. Так расцанілі ўлады штогадовую цырымонію, на якой члены клана спальваюць вялікі драўляны крыж, абліўшы яго бензінам.

### Неверагодна?

***Хочаце быць доўгажыхаром? Няма нічога больш простага, сцвярджаюць брытанскія вучоныя.***

Рэцэпт маладосці, па іх меркаванню, заключаецца ў... непрыгожай, нават выродлівай, жонцы. Згодна з даследаваннямі псіхолагаў, мужчыны туманнага Альбіёна, якія выбіраюць сабе спадарожніцу жыцця, мякка кажучы, «не з сімпацюлек», жывуць прынамсі на 12 гадоў больш, чым тыя, хто раздзяліў сваю долю з «абаяльнымі і прывабнымі». Тлумачыцца феномен надзвычай проста: дужая палавіна брытанскіх астравоў, думкі якіх заняты пастаяннай рэўнасцю і тым, як бы ўлагодзіць сваю каханую, маюць мала шанцаў захаваць нармальны стан духу і цела.

### Анекдот

*Навабранец упершыню сеў за абедзенны стол у салдацкай сталовай. Доўга глядзеў на пададзеную талерку і нарэшце спытаў у сяржанта:*

*— Ці ёсць тут хоць нейкі выбар?*

*— Ёсць! — быў адказ. — Хочаш — еш, хочаш — не еш!*

## РАДЫЁ , 19 снежня

*Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 15.00, 19.00, 22.00, 23.50.*

7.00 — «Радыёфакт». 8.10 — «Прамень». 9.00 — «Сёння ў газетах». 9.15 — «Па родным краі». На сувязі — Магілёў. 9.30 — праграма «Пульс». 10.05 — «Маладзёжнае радыё прадстаўляе...» 10.35 — «Для тых, хто дома». 11.35 — працяг інфармацыйна-аналітычнай праграмы «Прамень». 13.10 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — «Марым, слухаем, усміхаемся». 15.10 — музычны канал. 16.05 — 18.00 — «Радыё «Карусель» — дзецям і падлеткам». 16.05 — «Арыенцір». Расказваем пра прафесіі. 16.35 — «Лялькі для дзяцей і дарослых». З гісторыі лялечнага тэатра. 17.00 — для малышоў. А. Дзеружынскі. «Казка пра вожыка». 17.15 — «Пытанні ў паштовым канверце». Праграма па пісьмах падлеткаў. 18.00—18.40 — перадачы абласных тэлерадыёаб'яднанняў. (18.00—19.00 — «Поступ часу». Вячэрняя праграма радыёстанцыі «Сталіца»). 19.00 — «Постфактум-радыё». 20.00 — песні А. Моўчана і А. Казловіча. 20.20 — «Супольніцтва». 20.50 — вячэрняя казка. 21.00 — «Для вас, ветэраны». 22.10 — «Маладзёжнае радыё прапануе...» 0.02—1.00 начны канал. «Новыя запісы беларускай музыкі».





## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з 75-годдзем* ***Мікалая Міхайлавіча Басуматарава.*** *Жадаем яшчэ многа год шчаслівага жыцця, добрага здароўя і бадзёрага настрою. З наступаючым Новым годам!*

**Сын, нявестка, унук,** *г. Мінск.*

*Віншуем з юбілеем* ***Валянціну Пруткову*** *з г. Новалукомля. Хай юбілей нясе вам шчасце, ні кроплі смутку... здароўя, радасці, багацця на доўгія гады.*

**Супрацоўнікі.**

*Сардэчна віншуем* ***Яўгена Міхайлавіча Стасюкевіча*** *з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у працы.*

**Мама, тата.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94665. Індэкс 63850.
Зак. № 7927.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15
М 1 2 3 4 5 6 7 8 ? 1 12
П 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12